

*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*

# Літаратура і мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

**ПЯТНІЦА, 20 кастрычніка 1989 г. № 42 (3504) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.**


## ІНФАРМАЦЫЙНАЕ ПАВЕДАМЛЕННЕ

### аб пленуме Цэнтральнага Камітэта Кампартыі Беларусі

**18 кастрычніка ў Мінску адбыўся XV пленум Цэнтральнага Камітэта Кампартыі Беларусі. Пленум разгледзеў пытанне аб скліканні чарговага XXXI з'езда Камуністычнай партыі Беларусі. З дакладам па гэтаму пытанню выступіў першы сакратар ЦК Кампартыі Беларусі Я. Я. Сакалоў.**

**У спрэчках выступілі А. А. Зеляноўскі — першы сакратар Брэсцкага абкома Кампартыі Беларусі, М. В. Жэбрак — першы сакратар Ваўкавыскага гаркома Кампартыі Беларусі, У. У. Панталеў — першы сакратар Наваполацкага гаркома Кампартыі Беларусі, В. М. Чачын — рэктар Беларускага політэхнічнага інстытута, Л. С. Шульжэнка — машыніст Гомельскага вагонарамонтнага завода імя М. І. Калініна, В. І. Жалязняк— старшыня калгаса імя Леніна Гомельскага раёна, Герой Сацыялістычнай Працы, А. Т. Кузьмін — персанальны пенсіянер, член ЦК КПБ, Д. К. Арцыменя — старшыня выканкома Гродзенскага абласнога Савета народных дэпутатаў.**

**Па абмеркаванаму пытанню пленум прыняў пастанову, якая публікуецца ў друку.**

**Пленум разгледзеў таксама арганізацыйныя пытанні. У сувязі з выбраннем Старшынёй Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР М. І. Дземянцей вызвален ад пасады сакратара ЦК Кампартыі Беларусі. Сакратаром і членам Бюро ЦК Кампартыі Беларусі выбран А. С. Камай, які да гэтага працаваў першым сакратаром Гомельскага абкома КПБ.**

**У сувязі з выбраннем Г. С. Таразевіча старшынёй Камісіі Савета Нацыянальнасцей Вярхоўнага Савета СССР па нацыянальнай палітыцы і міжнацыянальных адносінах ён вызвален ад абавязкаў члена Бюро ЦК Кампартыі Беларусі.**

**У сувязі з зацвярджэннем С. Я. Паўлава рэктарам Мінскай вышэйшай партыйнай школы ён вызвален ад пасады загадчыка ідэалагічнага аддзела ЦК Кампартыі Беларусі. Загадчыкам ідэалагічнага аддзела ЦК КПБ зацверджан А. У. Русецкі.**



## Якім быць помніку Францішку Скарыне

Відаць, не было ў застойныя часы мастака, які б не абураўся тэматычнай абмежаванасцю афіцыйных заказаў (чарговы партрэт перадавіка вытворчасці, чарговы краявід з трактарам, чарговы мемарыяльны знак у гонар чарговага ці ўжо хрэстаматыйнага «эпахальнага здзяйснення»). Мастак часта быў вымушаны абмяжоўваць сваю здольнасць думаць здольнасцю заказчыка разумець, бо псіхалагізм у партрэце ці неадназначнасць у ацэнцы гістарычнай падзеі выклікалі ў таго, хто плаціць, падазронасць. Што ж датычыць дакастрычніцкай гісторыі Беларусі, дык ёй увогуле не было месца ў «манументальнай прапагандзе». Сёння можна адзначыць пэўныя зрухі ў лепшы бок, сімптомы вяртання здаровага сэнсу. Агульны ўздым нацыянальнай свядомасці беларусаў, актывізацыя дзейнасці нефармальных аб'яднанняў патрыятычнага кірунку не ў малой ступені паўплывалі на рашэнне ўрада рэспублікі аб стварэнні ў Мінску помніка вялікаму сыну Беларусі, аднаму з найвыдатнейшых дзеячаў еўрапейскага Адраджэння Францішку Скарыне.

Быў абвешчаны конкурс. Група беларускіх скульптараў з мэтай, так бы мовіць, уваходжання ў вобраз наведала ў Польшчы і Чэхаславакіі мясціны, звязаныя з жыццём і дзейнасцю вялікага асветніка. І вось першыя вынікі творчай працы — выстаўка ў Палацы мастацтваў конкурсных праектаў помніка. Спадзяюся, што мая нататка не будзе расцэнена як спроба ціску на журы конкурсу. Я выказваю сваю прыватную суб'ектыўную думку, але на абмеркаванні праектаў (яно адбылося ў Палацы 18 кастрычніка) давялося ўпэўніцца, што так думаю не адзін я. Па-першае, ніводны з прапанаваных праектаў не можа быць прапанаваны да рэалізацыі. Па-другое, намер паставіць помнік да юбілейных урачыстасцяў; гэта значыць, у наступным годзе — чысцейшая авантура. Паўнацэнны мемарыял, варты вялікага імя, зрабіць за такі кароткі тэрмін немагчыма. Шэдэўры не ствараюцца знянацку. Цікавую думку, дарэчы, выказаў на абмеркаванні Алесь Марачкін: не спяшацца з помнікам, правесці другі тур (і трэці, калі будзе такая неабходнасць), а Скарынавы юбілей адзначыць прыняццем Закона аб дзяржаўнасці беларускай мовы — гэта было б сведчаннем сапраўднай пашаны да Скарынавай справы, да памяці першадрукара. Усе выступаючыя адзначалі цяжкасць архітэктурнай «прывязкі» помніка. Фасад Акадэміі навук, на фоне якога павінен паўстаць помнік Скарыне,— гэта адна з архітэктурных дамінантаў Ленінскага праспекта. Побач з гэтай вядомай усім каланадай невыразная скульптура проста знікне, будзе ўспрымацца не мемарыялам вялікаму чалавеку, а ў лепшым выпадку — элементам дэкаратыўнага аздаблення плошчы, гэткай «паркавай» скульптурай. На абмеркаванні ўзнікла нават думка шукаць для помніка іншае месца. Думаю, што гэтага рабіць не варта. Больш прэстыжнай кропкі для помніка проста няма. А ў дадзеным выпадку прэстыж месца — справа немалаважная. Да таго ж, складаная сітуацыя для творцы — гэта толькі стымул для пошуку неардынарнага рашэння.

У бліжэйшы час журы конкурсу павінна вынесці сваё рашэнне. На жаль, ні старшыня журы М. Савіцкі, ні старшыня рэспубліканскага аргкамітэта па падрыхтоўцы і святкаванні 500-годдзя Францішка Скарыны Н. Мазай на гэтым абмеркаванні не прысутнічалі. Мне асабіста слушнай падалася прапанова правесці яшчэ адно абмеркаванне праектаў, каб на ім былі не толькі дзеячы культуры— мастакі, архітэктары, пісьменнікі, але і шматлікія жыхары Мінска і іншых гарадоў Беларусі, госці з братніх рэспублік, прадстаўнікі ўрада БССР, партыйнае кіраўніцтва рэспублікі.

Помнік генію павінен быць шэдэўрам. Нельга, каб такі важны аспект ушанавання памяці Скарыны быў вырашаны келейна.

**П. ВАСІЛЕЎСКІ,**
**карэспандэнт аддзела выяўленчага мастацтва «ЛіМа».**

**З ПОШТЫ ГЭТАГА ТЫДНЯ**

## Горкая, ды неабходная праўда

**Прачытала публікацыю С. Алексіевіч «Цынкавыя хлопчыкі». Не спала ўсю ноч, і цяпер не магу знайсці сабе месца. Думкі — самыя розныя. Мусіць, людзі, якія не дакрануліся да гэтага жаху і не пабывалі там, у Афганістане, мяне не зразумеюць. Не зразумеюць той страшны мацярынскі боль, ад якога нідзе не схаваешся. Хачу сказаць адно: за сумленна пражытае жыццё, за выгадаванага і выхаванага для Радзімы маральна і фізічна здаровага сына — сапраўднага патрыёта і грамадзяніна — атрымала я ў адказ непазбыўнае гора: мой Юра не вярнуўся. Падманулі сына, падманулі мяне. Падманулі прыгожымі словамі аб міры, дружбе, інтэрнацыяналізме. А цяпер яшчэ і крыўдзяць ганебным маўчаннем пра многія факты з той вайны. Не ўсё, што пішуць сёння пра Афганістан, хочацца чытаць. Але «Цынкавыя хлопчыкі» — гэта праўда, якая яна ёсць. Горкая, балючая, ды неабходная праўда.**

**У мяне захаваўся «дзённік» сына, які ён пачаў весці яшчэ са школьных гадоў. Чытаю яго і думаю, якім прынцыповым, сумленным, мужным і добрым быў мой Юра... Афганскую частку яго дзённіка мы перадалі Святлане Аляксандраўне Алексіевіч. Поспеху ёй і нізкі паклон ад маёй сям'і.**

**Я цяпер — старшыня савета сем'яў воінаў-інтэрнацыяналістаў, якія загінулі ў Афганістане. Бясконца пішам мы ва ўсе інстанцыі, патрабуем аднаўлення справядлівасці. Колькі жыць будзем, столькі будзем змагацца за абнародаванне страшнай праўды аб гэтай вайне.**

**Іна Сяргееўна ГАЛАЎНЁВА.**

г. Мінск.

# СПРАВА ДЛЯ АРХІТЭКТАРА?

Нядаўна ў рэдакцыю «ЛіМа» звярнуліся жыхары Маладзечна Ю. Белановіч і Р. Кедрык. Сітуацыя, у якой яны апынуліся, падалася даволі характэрнай і распаўсюджанай. Менавіта таму ёсць сэнс пазнаёміць з абставінамі справы. Трэба адразу агаварыцца, што, давяраючы людзям і тым дакументам, якія яны прыносяць у рэдакцыю, мы ўсведамляем — у гэтых людзей могуць быць апаненты, наогул могуць быць іншыя пункты погляду. Але рэдакцыя і не прэтэндуе на ісціну ў апошняй інстанцыі. Проста мы вырашылі даць магчымасць выказацца людзям, якія апынуліся ў цяжкім становішчы.

**«4 красавіка 1989 года партыйны сход апарата выканкома аб'явіў тав. Белановічу вымову і аднагалосна прыняў рашэнне вызваліць яго ад пасады (галоўнага архітэктара.—Рэд.) у сувязі з тым, што т. Белановіч доўгі час траціць свае сілы, веды і энергію не на паляпшэнне работы.., а на нападванне абстаноўкі ў горадзе, выканкоме, стварэнне канфліктных сітуацый з кіраўніцтвам выканкома, кіраўнікамі будаўнічых і праектных арганізацый».**

**Гэта словы з рашэння Маладзечанскага гарвыканкома, які праз шэсць дзён пасля згаданага сходу звольніў галоўнага архітэктара з-за неадпаведнасці займаемай пасадзе і прафесійнай непрыдатнасці.**

**А вось выпіска з пратакола сходу партарганізацыі выканкома, які адбыўся 20.02.86 г.: «...Камуніст Белановіч у адпаведнасці з палажэннем аб галоўным архітэктары здзяйсняе неабходнае кіраўніцтва. Як дэпутат гарадскога Савета садзейнічае выкананню задач Савета ў галіне горадабудавання...»**

За гады, якія аддзяляюць гэтыя два дакументы, магло, зразумела, многае адбыцца. Тым болей, што яны—а гэта былі гады перабудовы — прад'явілі суровыя патрабаванні да ўсіх без выключэння—і ў першую чаргу да тых, хто надзелены паўнамоцтвамі Савецкай улады.

Юрый Баляслававіч Белановіч згодны з такой пастаноўкай пытання. Не адмаўляе, што ў яго рабоце былі хібы. Больш таго, ён не пярэчыць супраць неабходнасці абнаўлення апарата выканкома, супраць прыходу новых людзей (калі толькі яны сапраўды кампетэнтныя ў сваёй справе). Але не можа ён у сілу сваёй прафесійнай і чалавечай годнасці пагадзіцца з тым, што нічога не зрабіў як архітэктар для горада. Горада, у які, дарэчы, яго запрасілі пераехаць з Мінска і з якім ён звязаў свой лёс.

Белановіч звярнуўся за падтрымкай у Саюз архітэктараў Беларусі. Для праверкі яго заявы была створана камісія на чале з сакратаром праўлення СА БССР Ю. Патапавым, якая выехала ў Маладзечна. Сумесна з прадстаўнікамі Дзяржбуда рэспублікі камісія прыйшла да высновы, што ў горадзе «здзяйснялася планамернае ўпарадкаванне архітэктурна-планіровачнай структуры..., забудова новых і рэканструкцыя існуючых жылых і прамысловых раёнаў...» Адзначыўшы некаторыя недапрацоўкі ў рабоце галоўнага архітэктара, камісія зрабіла наступнае заключэнне: «канфліктныя сітуацыі ўзнікалі ў галоўнага архітэктара пры прыёмцы ў эксплуатацыю аб'ектаў... з незавершаным добраўпарадкаваннем, нізкай якасцю работ і г. д. Белановіч Ю. Б., будучы старшынёй альбо членам Дзяржаўных прыёмачных камісій, не падпісваў (у прыведзеных выпадках.—Рэд.) акты гэтых камісій». Выканком не прадставіў камісіі з Мінска ніякіх дакументаў, у якіх былі б заўвагі да галоўнага архітэктара.

**16 мая г.г. сакратарыят праўлення СА БССР на падставе высноў камісіі прызнаў неабгрунтаваным звальненне галоўнага архітэктара без узгаднення з Дзяржбудам БССР. Было прынята рашэнне за подпісам старшыні праўлення Саюза архітэктараў БССР Я. Кавалеўскага хадайнічаць перад Маладзечанскім гарвыканкомам аб аднаўленні Белановіча на пасадзе.**

**29 мая Мінскі аблвыканкам пастанаўляе аднавіць Белановіча на рабоце і выплаціць яму зарплату за вымушаны прагул. Маладзечанскаму гарвыканкому даручана разгледзець пытанне аб адносінах галоўнага архітэктара да службовых абавязкаў на чарговай сесіі гарсавета.**

Пасля гэтага канфлікты галоўнага архітэктара з кіраўніцтвам выканкома і кіраўнікамі будаўнічых арганізацый не спыніліся. Ён не аднойчы адмаўляўся падпісваць акты на прыёмку дамоў з недаробкамі. У гарадской газеце «Святло камунізму» за 20 верасня з'яўляюцца нататкі Белановіча «Каму гэта патрэбна?», у якіх аўтар крытыкуе бракаробаў і тых, хто ім патурае.

У той жа дзень, калі выйшаў нумар газеты, Юрый Баляслававіч прыняў удзел у мітынгу, арганізаваным гарадскім аддзяленнем БНФ «Адраджэнне» і мясцовай радай Таварыства беларускай мовы (у ТБМ Белановіч уступіў яшчэ вясной). Мітынг быў прысвечаны рэспубліканскім законапраектам аб выбарах. Белановіч, як не раз гэта было і раней, выступіў з крытыкай кіраўніцтва Маладзечанскага гаркома партыі і гарвыканкома.

А 21 верасня на чарговай сесіі гарадскога Савета народных дэпутатаў разглядаецца пытанне, якое не значылася ў парадку дня: аб рэарганізацыі мясцовых органаў архітэктуры. У выніку рэарганізацыі, праведзенай насуперак загаду Дзяржбуда БССР № 88 ад 10.06.88 г. «Аб далейшым развіцці архітэктуры і горадабудаўніцтва ў рэспубліцы», Белановіч апынуўся па-за штатам гарвыканкома. А горад у выніку аказаўся... без галоўнага архітэктара. (Яго функцыі ўскладзены на аднаго з загадчыкаў аддзелаў). Ніякага абмеркавання службовай дзейнасці Белановіча, на чым настойваў аблвыканком, не адбылося. Чалавека нават не выслухалі. Цяпер ён нідзе не працуе...

**Белановіч пераканаы — адбылася звычайная расправа за крытыку. У былога галоўнага архітэктара ёсць падставы так лічыць яшчэ і таму, што амаль у аналагічную сітуацыю трапіў яго сябар — Рыгор Аляксандравіч Кедрык. Ён быў звольнены з пасады дырэктара вытворчага аб'яднання гаржылкамгаса. Звольнены неўзабаве пасля таго, як выступіў на гарадской партканферэнцыі з крытыкай «айцоў горада» за прыпіскі ў будаўніцтве і дзяржпрыёмцы жылля. На пачатку чэрвеня гэтага года ён быў выключаны з партыі, але адноўлены са строгім партыйным спагнаннем, якое Кедрык лічыць беспадстаўным.**

**Белановіч і Кедрык шмат разоў звярталіся ў розныя інстанцыі — у Мінскі АК КПБ, ЦК КПБ, КПК пры ЦК КПСС — з просьбай разабрацца ў сітуацыі. Адказу пакуль не атрымалі.**

Шкада, што вось ужо немалы час два спецыялісты займаюцца не справай, якой павінны былі б займацца, а вымушаны марнаваць час, энергію і маральныя сілы ў пошуках праўды і справядлівасці.

# ГАЙНАЎКА ЧАКАЕ...

**Госць павітаўся і загаварыў на добрай беларускай мове. Ды штосьці ў ягоным маўленні, нейкі ледзь улоўны акцэнт ці своеасаблівая, трошкі не наская інтанацыя выдавалі, што ён, няйначай, з Польшчы — так гавораць беларусы з Беласточчыны. І мы не памыліліся ў сваіх здагадках. Наведнік наш назваўся:**

**— Кастусь Майсеня, старшыня Грамадскага камітэта па будове Музея здабыткаў беларускай культуры і гісторыі рэвалюцыйнага руху ў Гайнаўцы.**

**Пра мястэчка Гайнаўку на Беласточчыне ў ПНР, пра беларускі музей, які ствараецца там, «ЛіМ» пісаў ужо. Тым не менш, скарыстаўшы шчаслівы выпадак, мы папрасілі госця расказаць чытачам штотыднёвіка пра тое, якім мяркуецца быць музею, як ідзе яго будаўніцтва, як разгортваецца збор экспанатаў.**

**К. Майсеня расказаў:**

**— Музей наш быў закладзены ў 1986 годзе. Будзе ён складацца з трох будынкаў, якія створаць адзіны цэласны комплекс. Пры музеі мяркуецца адчыніць невялікую гасцініцу, бібліятэку, чытальню, кіназалу для прагляду навукова-папулярных фільмаў, архіў, фотамайстэрню, майстэрню для кансервацыі экспанатаў, кавярню. Агульная плошча будынкаў складзе 2700 квадратных метраў—больш як чвэрць гектара. Экспазіцыйных залаў будзе шэсць.**

**Першы будынак ужо адрэстаўрыраваны, і неўзабаве, магчыма, яшчэ сёлета, мяркуем адчыніць першыя дзве залы, у якіх размесцяцца экспанаты краязнаўчага характару.**

**Будаўніцтва другога будынка падыходзіць да завяршэння, а вось трэці толькі-толькі распачалі.**

**Усё робіцца на энтузіязме людзей. Беларусы збіраюць і дораць музею экспанаты, самі працуюць на будаўніцтве, даюць свае будматэрыялы, тэхніку, ахвяруюць грошы.**

**Польскі ўрад дапамагае нам у гэтай справе, так бы мовіць, вельмі сціпла. Сродкі толькі ад ахвяраванняў беларусаў —тых, што жывуць на Беласточчыне (а беларусаў тут сярод жыхароў 50 працэнтаў), тых, што жывуць у іншых раёнах Польшчы, і тых, што жывуць на Захадзе —у ЗША, Канадзе, Аўстраліі, Англіі, Бельгіі, ФРГ. Так, да слова, цэрквы з Захаду перадалі нам 15 тысяч долараў.**

**Апошнім часам руку дапамогі падалі нам і вы, савецкія беларусы, жыхары вашай рэспублікі. На рахунак № 141713, які адчынены ў Рэспубліканскім жылсацбанку г. Мінска, пералічваюць добраахвотныя ўзносы і асобныя грамадзяне БССР, і дзяржаўныя арганізацыі. Хачу назваць некаторыя з іх. Так, выдавецтва «Мастацкая літаратура» пералічыла 10 тысяч рублёў, Мінскі абласны савет прафсаюзаў—20 тысяч, выдавецтва «Народная асвета»—250 рублёў, аб'яднанне «Белрэстаўрацыя»—5 тысяч рублёў, выдавецтва «Полымя»—200 рублёў, ашчадны банк № 7459 Савецкага аддзялення № 16 г. Мінска —500 рублёў і інш.**

**Усё гэта нам вялікая матэрыяльная і маральная падтрымка.**



Расце будынак музея ў Гайнаўцы.

**Асабліва дапамагае нам Беларускае таварыства па культурных сувязях з суайчыннікамі за мяжой «Радзіма», яго старшыня Мікалай Іванавіч Васілёнак.**

**Нягледзячы на агульны энтузіязм, патрэба ў ахвяраваннях на будаўніцтва музея ёсць, асабліва ў зборы грошай і экспанатаў. Без вашай дапамогі мы наўрад ці абыдземся. І таму, карыстаючыся нагодаю, ад імя Грамадскага камітэта па будове музея і Галоўнага праўлення беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы хацеў бы звярнуцца праз «ЛіМ» да яго чытачоў, да ўсіх, каму дарагая наша беларуская справа: дапамагайце нам і надалей, не пакідайце адных.**

**Усім, хто адгукаецца на нашу просьбу, усім асобам і арганізацыям, выказваю шчырую падзяку. Справа, на якую вы ахвяруеце свае сродкі,—наша агульная, патрэбная, святая справа.**

# «Аптыміст» вам дапаможа

— Вы ведаеце, існуюць кааператывы, з якімі звязвацца баяцца многія? Баяцца нават нас, медыцынскіх кааператываў, — з такога пачаў свой расказ Уладзімір ДЗ'ЯЧЭНКА. Працуе ён загадчыкам аддзялення рэспубліканскай клінічнай псіхіятрычнай бальніцы і ўзначальвае медыцынскі кааператыў «Аптыміст», што з'явіўся ў горадзе летам мінулага года.

Не для кога не сакрэт, што на многіх прадпрыемствах колькасць захворванняў няўхільна расце. Дык вось арганізатары кааператыву прааналізавалі захворванні на некаторых прадпрыемствах горада Мінска. Аказалася, што на буйных прадпрыемствах толькі на росце бальнічных лістоў трацішча ў год 300 тысяч рублёў.

— Наш кааператыў першым у краіне распрацаваў сваю сістэму аховы здароўя на прадпрыемствах, — працягваў гутарку Уладзімір Васільевіч. — Асноўная адметнасць яе — мы ў сваёй методыцы разлічваем на канчатковы эфект, на поўную рэабілітацыю хворага...

— Якое адрозненне вашай сістэмы ад агульнавядомай сістэмы аховы здароўя чалавека? — пытаю я.

— Велізарнае. Зразумейце, што пры існуючай сістэме медыцынскага абслугоўвання чалавеку проста немагчыма аказаць комплекснае лячэнне. Тыя дзесяць хвілін, якія ўдзяляюць наведвальніку ў паліклініках — проста мізэр. Нямоглец бескантрольна дома прымае лекі, бессістэмна наведвае паліклініку, адным словам, за ім ніхто не сочыць, ён успамінае пра здароўе і пра ўрачоў у тым выпадку, калі раптам прыхварэе. Тады ён загляне, як правіла, звычайна да аднаго ўрача, і на гэтым справа завяршаецца. Кліенты медыцынскага кааператыву, пабыўшы ў нас, праходзяць комплекснае абследаванне ўсімі ўрачамі. Матэрыяльная зацікаўленасць не дазваляе нам працаваць непрафесійна, на работу скаргаў яшчэ не было.

У штаце «Аптыміста» працуюць высокапрафесійныя псіхатэрапеўты, іголкарэфлексатэрапеўты, флеболагі, сасудзістыя хірургі, нейрахірургі і г. д. Наша сістэма абследавання і лячэння не нарадзілася на голым месцы, мы працуем з арыгінальнымі методыкамі, шырока выкарыстоўваючы ўсходнюю тэрапію, якія далі добрыя вынікі.

Прапаноўваем свае паслугі цэлым прадпрыемствам: можам гарантаваць любому з іх, што мы, прымяняючы сваю сістэму, абавязкова знізім колькасць хворых, а гэта значыць, знізім колькасць затрачаных грошай на аплату бальнічных лістоў. Падобная сістэма прапанавана некаторым буйным прадпрыемствам Мінска, азнаямленне з нашым дагаворам там адкладзена на канец снежня. Праўда, прадпрыемствы не выказваюць асаблівага жадання ўступаць з намі ў дагаворныя абавязацельствы.

Мы ведаем, колькі нараканняў паступае на работу розных кааператываў, колькасць якіх нястрымна расце, і асноўнае з іх выражае кпінлівае народнае выслоўе: абдзяруць, як ліпку. Таму, слухаючы старшыню паважанага кааператыву, падумаў, што асноўная прычына насцярожаных адносін да паслуг медыкаў, пэўна, тоіцца ў матэрыяльным баку справы.

У. Дз'ячэнка разгадаў мае думкі:

— Любое прадпрыемства ад дагавора будзе мець эканамічны даход, а разлікі мы вядзём наступным чынам. Дапусцім, летась па бальнічных лістах не выйшла на работу энная колькасць чалавек, якую мы і бяром за 100 працэнтаў, але, дзякуючы намаганням нашых урачоў, праз год хварэла 70 працэнтаў рабочых, значыць, агульная іх колькасць панізілася на 30 працэнтаў. Гэта дазваляе сэканоміць немалыя грошы, і ад 30 працэнтаў 60—80 працэнтаў ідзе на рахунак кааператыву, а астатнюю частку эканоміі пакідаем прадпрыемству. Толькі прыпыніўшы далейшы рост захворванняў, за год можна сэканоміць 50—60 тысяч рублёў, пры зніжэнні захворванняў гэта сума рэзка павялічваецца. Нашы ўрачы, падкрэсліваю, зацікаўлены ў зніжэнні колькасці хворых, што толькі на карысць пойдзе прадпрыемству.

Канешне, аповяд урача цікавы, толькі незразумела, чаму пра яго работу ніхто нідзе не гаворыць і чаму «Аптыміст» не закідалі заказамі...

— Уся справа ў нашай псіхалогіі, — упэўнены У. Дз'ячэнка. — На новае мы глядзім з боязззю, і ніхто з нас не хоча рызыкаваць. Як гаворыцца, ціха едзем — ну і добра, навошта яшчэ новыя праблемы. Пачуўшы слова «кааператыў», многія вядуць сябе насцярожана, не звяртаючы нават увагі на другое слова «медыцынскі», некаторыя не вельмі вераць у каэфіцыент карыснага дзеяння нашага занятку.

Кааператыў мае дазвол на знешнюю эканамічную дзейнасць і шукае зацікаўленых партнёраў. Гэты пастаянны пошук прывёў да дамоўленасці з адной з зарубежных фірм, якая ў кароткія тэрміны можа паставіць новае імпартнае абсталяванне і забяспечыць неабходны сервіс. Быў нават знойдзены стратны прафілакторый і выказана прапанова аб арэндзе і стварэнні сумеснага прадпрыемства па лячэнню жыхароў Мінска. Але... на працягу 8 месяцаў пытанне аб арэндзе будынка так і не было вырашана.

Гэта — *самая значная праблема*, якую «Аптыміст» не можа вырашыць. Акрамя гэтага, адсутнічае прававая абароненасць, не хапае памяшканняў, практычна немагчыма закупіць медтэхніку.

Кааператыў «Аптыміст» — медыцынская ўстанова, якая прызвана зберагаць самае дарагое — здароўе чалавека. Не маючы рэкламы, адчуваючы да сябе недавер з боку арганізацый, ён не змог «угаварыць» кіраўнікоў прадпрыемстваў лячыць па прапанаванаму метаду. Планы ў яго, як бачыце, далёкія і неблагія. Можа, хто-небудзь, прачытаўшы артыкул, адгукнецца і дапаможа ў вырашэнні тых праблем, з якімі сутыкнуліся кааператары. Прапанову аб магчымасці стварэння пад Мінскам лячэбніцы з неабходным імпартным абсталяваннем абмінуць нельга.

**З наведвальнікамі рэдакцыі гутарылі В. ТАРАС, М. ГІЛЕВІЧ, В. ЛАПЦІК.**

**Ніл ГІЛЕВІЧ**

# МІЖ БЫЛЫМ І НАСТУПНЫМ

## СШЫТАК ШОСТЫ

НЯМА СУМНЕННЯ, што ў новых грамадскіх умовах, якія складваюцца ў краіне, рэзка павысяцца патрабаванні свядомага, разумнага чытача да ідэйна-мастацкага ўзроўню літаратуры. Асабліва — што датычыць праўды адлюстраванага ў ёй жыцця і натуральнасці яе чалавечага голасу. Фальшу ні ў тым, ні ў другім чытач больш не пацерпіць — гэта ўжо, як-то кажуць, напэўна! Новыя крытэрыі-меркі будуць, можна не сумнявацца, прыкладзены і да той кніжнай прадукцыі, што адрасавалася чытачу ў часы ад Сталіна да Чарненкі і атрымоўвала высокую атэстацыю. Давядзецца зрабіць пэўную пераацэнку мастацкіх каштоўнасцей, паглядзець на колісь напісанае самакрытычна: што ў ім — сапраўды літаратура, а што — убогая даніна хваробам часу.

□

**РОЗНЫЯ ПОГЛЯДЫ** на сучасны літаратурны працэс, розныя яго ацэнкі... Як і на творчасць таго ці іншага пісьменніка... Як нам, на беларускім Парнасе, гэтай рознасці не хапае! Спрэчак на старонках літаратурных выданняў амаль не ўзнікае. Ды і як ім узнікнуць, калі на іншую неардынарную кнігу наогул паяўляецца ўсяго на ўсяго адна рэцэнзія — і тая анатацыйная... Сумна, халерачка, сумна! Кожны таленавіты твор — гэта абавязкова завастрэнне жыццёвых праблем, гэта абавязкова звернутыя да грамадскасці, да чытачоў, пытанні. А выходзіць, што пагаварыць няма пра што.

□

МЯРКУЕЦЦА, што некалі ў няблізкім будучым па нашых творах, гаворачы словамі Максіма Багдановіча, «людзі зведаюць аб прадзедах сваіх, — аб горы, радасцях і аб прыгодах іх, каму маліліся, чаго яны шукалі...» Аб «прадзедах сваіх» — гэта значыць, аб нашых сучасніках, аб нас з вамі.

Дык вось наконт таго, каму мы молімся і чаго шукаем. А ці молімся мы каму-небудзь і ці шукаем наогул? А, можа, і не молімся і не шукаем? Жывем — бестурботна, супакойна, сыта? Як у другога нашага класіка — у Змітрака Бядулі: «Заліў быдлячы лой валоўі твае грудзі, бяздумна ты жывеш, без сэнсу, без надзей...»? Ну, пра сытасць і лой гаварыць не прыходзіцца, а што да бяздумнасці — то яе, на вялікі жаль, хапае. Мысліцельнай, інтэлектульнай работы і ў паэзіі, і ў прозе, і ў драматургіі — па-ранейшаму малавата.

□

**ПРА ШТО У НАС,** у Беларусі, будуць пісаць кнігі заўтра? Пра тое, пра што, на вялікі жаль, яны яшчэ не пішуцца сёння. Хаця прайшло ўжо нямала часу ад пачатку вялікай — можа быць, найвялікшай — трагедыі ў гісторыі нашага народа.

Калі пачалася Вялікая Айчынная вайна і паўстала пытанне пра жыццё або смерць нацыі — уся наша літаратура адразу ж загаварыла пра гэта і ўжо на нішто іншае сваіх творчых сіл не траціла — аж да поўнай перамогі — чаму, усё было зразумела само па сабе: або свабода і жыццё — або няволя і смерць. Так, нашэсце чужаземцаў-захопнікаў азначала не проста заняволенне і ператварэнне нас у рабоў, а поўнае фізічнае вынішчэнне беларусаў як асобнага этнасу. Усведамленне гэтага мабілізавала тады нас усіх — ад вялікага да малога — на супраціўленне ворагу, на барацьбу. І на пярэднім краі барацьбы была літаратура.

Поўнае фізічнае вынішчэнне... Жахліва! А хіба менш жахліва: поўнае фізічнае выміранне? Знікненне беларускага народа шляхам паступовага, працяглага вымірання?.. Пра якое выміранне гаворка? Ясна, пра якое: пра смерць, якая з 26 красавіка 1986 года нябачна ўваходзіць у нашу кроў, у гены, уваходзіць патроху, непрыкметна, і, відаць, таму мы гэтак безадказна, гэтак злачынна нічога не робім, каб ўратаваць сябе як нацыю. Аднак галоўная прычына гэтай злачыннай бяздзейнасці — не цямнота і невуцтва наша (хаця яно ў нас і на ўзроўні дзікунства), а перш за ўсё — наша чэрствасць, наша раўнадушнасць, наша казённа-бюракратычная нячуласць да чалавека. Не толькі вучоныя-фізікі ды інжынеры-ядзернікі зразумелі адразу ж, якая страшная бяда прыйшла на беларускую зямлю, гэта зразумелі і многія-многія іншыя, адукаванага народу ў нас уга колькі! Зразумелі гэта і мы, літаратары, паэты, пісьменнікі... Павінны былі зразумець, ва ўсякім разе. Але — што з таго, калі і зразумелі? Дзе і як гэта выявілася? Чым засведчана? З чаго відно? З двух-трох вершаў — першых эмацыянальных водгукаў?..

Успамінаецца: *колькі* і з якім пранікнёным лірычным спачуваннем пісалі нашы паэты пра няшчасную дзяўчынку з Нагасакі, — ахвяру атамнай бамбардзіроўкі,— якая ўсё рабіла і рабіла папяровых жураўлікаў— сімвалы дзіцячай безабароннасці, прагі жыцця і міру... Ну, а дзе ж спачуванне нашым беларускім дзецям — ахвярам радыяцыі? Дзе наш пранікнёны, устрывожаны, балючы крык-голас?.. Ці, можа, шчырага спачування не было і тады — да той японскай дзяўчынкі? Можа, усяго на ўсяго была даніна модзе? Увесь свет пра яе гаворыць, піша — ну, і я пішу. Гэтым самым — змагаюся за мір, супроць пагрозы сусветнай ядзернай катастрофы...

А, можа, мы сапраўды нічога не зразумелі? Можа, і праўда мы да такой ступені страцілі здольнасць мысліць і ўяўляць рэальнасці нашага часу?..

□

ІНФЛЯЦЫЯ паэтычнага слова працягваецца. Пры гэтым фальшывыя стылістычныя штампы, якія збрыдзелі яшчэ з канца саракавых гадоў, спакойна сужываюцца з не менш фальшывымі стылістычнымі навацыямі, са спрытным жангліраваннем словамі, з моўнымі выкрутасамі і рэбусамі.

У нас аслепла-безадказна аб'яўляецца грамадзянскай паэзіяй вершатворчасць рытарская — псеўдаграмадзянская ад пачатку да канца. Якая яна грамадзянская, калі ў ёй ні радка праўды, адно бяздумнае славаслоўе? Грамадзянскасць без праўдзівасці, без заклапочанасці, без мужнасці?.. Даўно пара спыніць спекуляцыю на тэме. Пара ўсаромецца і не хваліць творы за гэтак званы ідэйны змест — безадносна да іх мастацкіх вартасцей. Дакуль будзем плаціць даніну гэтай ганебнай традыцыі, што пачалася ў часы культу і нанесла вялізную шкоду літаратуры і мастацтву? Што нам не дае сказаць адкрыта і ўголас: гэтыя вершы пра святыя, высокія паняцці напісаны не проста слаба, а бяздарна, тэма Радзімы, рэвалюцыі, партыі ў іх груба скампраметавана, і калі наогул нельга друкаваць слабыя вершы — дык сто разоў нельга множыць «высока патрыятычную» лухту...

Іншы вершатворац аж нагой прытупвае і кулаком у грудзі прыстуквае, крычучы, які ён сапраўдны камуніст і як ён верна служыць народу і Радзіме. Ужо колькі дзесяткаў гадоў так вось крычыць — усё баючыся, хаця б не ўсумніліся ў яго прававерпасці, хаця б не падумалі, што ён збочыў з вернай дарогі... Зрэшты, не варта вельмі строга судзіць таварыша: што зробіш, калі, відаць, моцны страх засеў у вантробах, страх і прымушае крычаць па дурной завядзёнцы. Вініць жа трэба тых, хто гэты псеўдапатэтычны крык хваліць, выдае за высокую паэзію...

Сказанае цалкам датычыць многіх вершаў і паэм гэтак званых «выкрывальных» — якія нібыта выкрываюць «капіталістычны рай», буржуазную, ідэалогію і мараль, палітыку мілітарызму і г. д. Бяда, аднак, у тым, што нічога яны не выкрываюць. Як правіла, гэта — бездапаможна-раўнадушная зарыфмаваная справаздача аб паездцы. Ну, як жа, з'ездзіў за мяжу, прычым — за дзяржаўны кошт,— трэба нешта напісаць, а то неяк няёмка... А калі па шчырасці — дык няёмка і сорамна павінна быць толькі адно: друкаваць *бяздумнае*, пустое, да таго ж яшчэ нярэдка і гамзата-гугнявае рыфмаванне...

□

**НАШАЙ ПАЭЗІІ** не хапае інтэлектуальнай спеласці і вастрыні. *Сёння гэта ёсць вастрыня сацыяльная*, бо — на чым яшчэ можна так завастрыць думку, як не на сацыяльным? А мы, здаецца, спяшаемся прыняць позу «адвакатаў чалавецтва», «апалагетаў вечнасці». Але іменна — позу, а ўсякая поза — гэта здрада натуральнаму чалавечаму пачуццю і голасу, і яна непазбежна ўгадваецца *чытачом. Гэта шлях*, на якім звычайна слова размінаецца з паэзіяй. Позу, як правіла, прымае той, каму няма чаго сказаць людзям, у каго ў душы — не трывога, не боль, не горыч, і нават не радасць, а — пустата. Ну, скажам, за позу любяць хавацца імітатары-перапеўшчыкі. Добра сказаў пра гэта малады сябра Віктар Шніп:

Адзін аднаго паўтараем,<br>І нас яшчэ хваляць за гэта.<br>Дзе пуста зусім — там шукаем.<br>Якія мы к чорту паэты!

Бясконцыя «варыяцыі на тэму»— адна з самых цяжкіх хвароб нашай сучаснай паэзіі. Другаснасць, несамастойнасць, паўтарэнне і самапаўтарэнне, пераймальнасць і нават яўны, хай сабе і ненаўмысны, плагіят — усё ад таго, што вытоң гэтай вершатворчасці не жыццё і не ўласны лёс, а літаратура. Чытаеш і бачыш: гэта ўжо было даўно ў іншых — даўно і лепш. Абавязак крытыкі — сказаць пра гэтыя першакрыніцы, спаслацца на іх — у імя справядлівасці. Дык не! Наадварот — хваліць эпігона-перапеўшчыка!..

□

ПСУЕ ЦІ НЕ ПСУЕ публіцыстычнасць паэзію? Ці не лепей, каб верш быў без элементаў *публіцыстыкі?*

Надуманая, на мой погляд, праблема.

Верш павінен быць вершам, творам паэзіі— незалежна ад таго, які пачатак у ім пераважае: псіхалагічна-лірычны, жывапісны, філасофскі, публіцыстычны, апавядальны і г. д. Ці патрэбен гэты штучны падзел паэзіі на публіцыстычную і непубліцыстычную, так бы мовіць — «чыста мастацкую», за якою, як правіла, правоў прызнаецца больш? Думаю, што гэта несправядліва — аддаваць перавагу якому-небудзь аднаму роду ці віду паэзіі. У прыватнасці, таленавітая, мужная, выкрасаная з глыбінь душы і сэрца публіцыстыка ўспрымаецца нават з большым хваляваннем, чым якая-небудзь іншая высокай вобразнай пробы лірыка. Успомнім «На смерць паэта» М. Ю. Лермантава. Хіба гэта не публіцыстычны верш? А вось гэтыя, напісаныя амаль дзвесце гадоў назад, радкі:

Я ль буду в роковое время<br>Позорить гражданина сан<br>И подражать тебе, изнеженное племя<br>Переродившихся славян?

Пабольш бы такой публіцыстыкі нам, браточкі!..

□

**ТРЭБА ПАДНЯЦЬ** вартасць аднаго верша на старонках нашых перыядычных выданняў. Паэзію мы прывыклі друкаваць падборкамі, па магчымасці — як мага большымі. Вядома, калі ўся падборка моцная — то няхай сабе і друкуецца ўся. Але ж як часта бывае, што ў вялікім касяку «залатая рыбка» толькі адна — адзін сапраўды цікавы, удалы верш. Чаму б у такім разе не выбраць яго з касяка і не апублікаваць асобна? Каб публікацыя аднаго верша была заўважана. Каб чытачы, ды і калегі пісьменнікі, загаварылі: «Чытаў? Паэт Імярэк надрукаваў у «Полымі» (у «Маладосці», у «Беларусі») верш!..» На вялікі жаль, мы амаль перасталі прадстаўляць чытачам паэта адным вершам. Нават калі і адзін ягоны верш ідзе — то не асобна, а ў кучы з вершамі іншых аўтараў, у агульнай падборцы. На маю думку, так абясцэньваецца паэзія, якую наогул прымаць дужа вялікімі дозамі не рэкамендуецца. Добры, моцны верш вымушае ад чытача засяроджанасці, удумлівасці, а пры павярхоўным, беглым чытанні ён можа застацца «рэччу ў сабе» — па сутнасці, непрачытаным.

□

ШТО НІКОЛІ не павінна вярнуцца ў наша літаратурнае жыццё? А вось гэткае: «...надо говорить не только о советских поэтах (в прямом и точном смысле этого слова), но и о тех поэтах, которые являются рупором классового врага (...) Гораздо более опасна маска юродства, которую надевает враг. Этот тип творчества представляет поэзия Заболоцкого, недооцененного как враг и в докладе Тихонова. Под видом «инфантилизма» и нарочитого юродства Заболоцкий издевается над нами... (...) Мы, коммунисты... будем указывать каждому из поэтов на основе научного, а не любительского анализа, как ему облегчить путь к коммунизму через его творческие особенности...»

Гэта — вытрымкі з выступлення А. Безыменскага на Першым з'ездзе савецкіх пісьменнікаў у жніўні 1934 года (стэнаграма з'езда, с. 550—551). «Мы будзем указваць кожнаму....» Так і не іначай! Сам ён ужо ведаў, «як аблегчыць шлях да камунізму». Чаму гэта варта сёння перачытваць? Таму што і дагэтуль не пераваліся ахвотнікі «ўказваць кожнаму». Напрыклад,— «як аблегчыць шлях» да інтэрнацыяналізму. Слухаеш іншы раз і такая блізкая — праз пяцьдзесят гадоў — пераклічка інтанацый,— аж вусцішна!..

□

**УЖО ШМАТ ГАДОЎ** у вялікім засмучэнні, з горыччу і нейкай крыўдай на душы гляджу, як літаратурныя і калялітаратурныя Докі выкідваюць з гісторыі айчыннай культуры аднаго з самых вялікіх рускіх паэтаў — Мікалая Аляксеевіча Някрасава. Выкідваюць такім своеасаблівым, як бы і нявінным, ненаўмысным спосабам: забываюць пры пераліку найярчэйшых свяціл рускай паэзіі назваць яго імя. Усяго і толькі. Забыліся, маўляў. Адзін раз забыліся, потым другі раз забыліся, потым трэці раз, і пяты, і дзесяты, і соты...—а ў выніку глядзіш: няма! Выпаў вялікі народны паэт з гісторыі рускай літаратуры! У артыкулах і размовах, у інтэрв'ю называюцца імёны Пушкіна, Лермантава, Цютчава, Фета, Блока, Маякоўскага, Пастэрнака, Ахматавай, Цвятаевай... А імя Някрасава — не называецца! Згубілася ненарокам... Дзеля справядлівасці зазначу: досыць рэдка пры такіх пераліках згадваюцца імёны яшчэ двух вялікіх народных паэтаў — Ясеніна і Твардоўскага. Далёка не адпаведна іх значэнне і месцу ў духоўным жыцці народа...

Проста бяда з гэтымі Докамі!.. Аспрэчваць іх, па маіх назіраннях, небяспечна: выкачаюць у гразі — як піць даць. Нязгоды з іх пазіцыяй яны не церпяць катэгарычна. Таму што яны — Докі. Вундэркінды і геніі ад калыскі. Яны ведаюць больш за ўсіх і наогул ведаюць усё — усякую ісціну ў апошняй інстанцыі. Яны гавораць (а часцей не гавораць, а крычаць) такім тонам і з такой упэўненасцю, што пярэчыць ім— значыць, ставіць пад сумненне і сваю дасведчанасць, і свой мастацкі густ, і, калі хочаце, нават свой грамадскі аўтарытэт і сваю чалавечую годнасць. Яны першыя бяруць слова ў літаратурных дыскусіях, і апошняе слова таксама бяруць яны, а паміж першым і апошнім — яшчэ разы трычатыры возьмуць, бо энергіі ў *кожнага з іх — на дзесяцёх.* Пакуль сумленны, сціплы чалавек думае, дзе тут праўда, а дзе няпраўда, Дока ўжо паставіў пытанне на галасаванне і крыкнуў: «Большасць — за!» За што — за? Ну, скажам, за тое, каб паставіць на покуць абразы тых, каго лічыць святымі ён і яго аднаверцы.

Дока хоча быць заканадаўцам у сферы літаратурна-мастацкай творчасці, выпрацоўшчыкам крытэрыяў і эталонаў, хоча дыктаваць сваю волю, навязаць свае густы і свае погляды. І паколькі Някрасаў яму нечым не падабаецца — ён не прызнае яго. Ён спрабуе паставіць яго на чале плыні, на стрыжні якой — Дзям'ян Бедны і прымітыўныя паэты-самавукі. Паверыць, што ён сапраўды не бачыць геніяльнасці Някрасава і не разумее велічнасці яго паэтычнай постаці, несмяротнасці яго слова,— ну, выбачайце! Дока заўсёды ведае, што і чаму гаворыць, чаго ён хоча і чаго не хоча. А не хоча ён, каб нацыянальная мастацкая літаратура была грамадскім клопатам пра лёс народа і яго культуру, каб яна вырастала з каранёў народнага жыцця-быцця, выходзіла з вытокаў той духоўнасці, якая адна і змагла ўберагчы нацыянальную культуру ад эрозіі, ад растварэння, ад гібелі.

Дока заяўляе, што сённяшніх аматараў паэзіі Някрасаў не цікавіць. Што ж, гаварыць за ўсіх чытачоў — гэта ў ягоных правілах. Але ці так яно ў сапраўднасці? Ды і хто сёння спрабуе данесці да простых людзей Някрасава? Ці часта па радыё або па тэлебачанні можна пачуць цікавую, змястоўную перадачу пра яго? Хіба што ў дні чарговага круглага юбілею?..

□

АДНОСІНЫ сучасных паэтаў да паэтычнай спадчыны вялікіх папярэднікаў і настаўнікаў — гэта адносіны да найкаштоўнейшых скарбаў нацыянальнай мастацкай культуры. Ці могуць гэтыя адносіны быць нейкімі іншымі, апрача як глыбока пашаноўнымі? Не могуць, вядома. Дакладней — могуць, але... У такім разе адразу ўзнікае пытанне: хто гэтыя сучасныя паэты і якія іх агульны культурны ўзровень, калі яны непашаноўна ставяцца да паэтычнай спадчыны вялікіх?

Калі мне першы раз трапіла на вочы публікацыя, аўтар якой падкрэслівае асаблівае значэнне і ролю ў гісторыі беларускай паэзіі Янкі Купалы і Максіма Багдановіча, а імя Якуба Коласа пры гэтым не ўспамінае,— я быў упэўнены, што перада мною звычайная «памылка друку»: выпала імя нашага трэцяга славутага песняра па недагляду. Але калі і другі раз у публічным выступленні гэтага ж аўтара паўтарылася тая самая «памылка друку» — мне стала ясна, што гэта — дэманстратыўнае непрызнанне паэтычных твораў Якуба Коласа ў якасці вяршынных дасягненняў беларускай літаратуры. Значыць, ні «Новую зямлю», ні «Сымона-музыку», ні лірыку вялікага народнага паэта таварыш Імярэк самымі яркімі праявамі нацыянальнага паэтычнага генія не лічыць... Зразумець гэта цяжка — такое катэгарычнае выкрэсліванне Якуба Коласа з ліку трох найвялікшых волатаў беларускай паэзіі. Хіба што па такой логіцы: Талстой не

(Працяг на стар. 12).

Сёння мы друкуем заключныя старонкі публіцыстычнага цыкла Н. Гілевіча. Папярэднія старонкі друкаваліся ў нумарах «ЛіМа» за 17 і 24 лютага, 10 і 17 сакавіка, 6 кастрычніка.

**Адам МАЛЬДЗІС**

# ...УВЕСЬ ЛІТАРАТУРНЫ КАНТЫНЕНТ

**Да выхаду ў свет «Біябібліяграфічнага слоўніка беларускіх пісьменнікаў»**

А ПОШНІМ часам ва ўсім свеце імкліва ўзрастае папулярнасць усялякай даведачнай літаратуры. Колькасцю і якасцю энцыклапедый сёння вызначаецца культурны ўзровень, прэстыжнасць народаў і краін. І яно зразумела: пры інфармацыйнай лавіне, якая захлiствае нас, пры хранічным дэфіцыце часу вельмі важна мець пад рукой дакладную крыніцу гэтай самай інфармацыі. Бо інакш — безнадзейнае адставанне.

**Сказанае вышэй датычыць не толькі тэхнічнай інфармацыі. Даведачная літаратура патрэбна — як паветра — таксама гуманітарыям. Найпершай крыніцай інфармацыі для іх з'яўляюцца біябібліяграфічныя слоўнікі пісьменнікаў. Яны даўно выйшлі і карыстаюцца вялікай папулярнасцю ў многіх зарубежных краінах (скажам, шматтомны «Новы Корбут» выходзіць у Польшчы другім выданнем, а яго ж дапаўняюць «Польскі біяграфічны слоўнік», з дзесятак іншых даведнікаў). Пяцітомны біябібліяграфічны слоўнік пісьменнікаў даўно маюць украінцы, першы том такога ж выдання — літоўцы. Або апошні яскравы прыклад. Толькі што выйшаў першы том біяграфічнага слоўніка «Русские писатели. 1800—1917» (паралельна яму выдаецца «Словарь книжников и книжности древней Руси»). Нягледзячы на тыраж у сто тысяч экземпляраў, падпісацца на яго амаль немагчыма. Чытачы адразу зразумелі, што такое выданне стане, як пра гэта пісала «Литературная газета», «галоўнай справай цяперашняга пакалення літаратуразнаўцаў».**

**Неабходнасць у слоўніку такога тыпу даўно наспела і ў Беларусі. Пра гэта не раз пісалі газеты, у тым ліку «Літаратура і мастацтва». Пра гэта сведчыць практыка нашага літаратуразнаўства, калі кожнаму даследчыку ў пошуках патрэбных яму фактаў даводзіцца амаль усляпую перабірацца праз лес інфармацыі. Сведчаць пра гэта і шматлікія біяграфічныя памылкі, якія дапускаюцца нашай прэсай (для доказу я мог бы прывесці шмат фактаў, але гэта не ўваходзіць у маю задачу). Сёння нас ужо не могуць задаволіць ні пяцітомная «Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі», над якой працаваў вялікі калектыў, ні даведнік «Пісьменнікі Савецкай Беларусі», складзены адным А. Гардзіцкім. Для свайго часу выхад іх быў, безумоўна, значнай падзеяй, стымуляваў развіццё літаратуразнаўства. Аднак у гэтых выданнях адбіліся і тэндэнцыі застойнага перыяду. Найпершая з іх — выбарачнасць, аднабаковасць інфармацыі. Усё тое, што не клалася ў пракрустава ложа схемы, абыходзілася маўчаннем. Дастаткова сказаць, што з літаратурна-мастацкай энцыклапедыі давялося выключыць (вядома, не па ўласнай волі) нават Алеся Гаруна. Вельмі далёкай ад паўнаты была і бібліяграфічная інфармацыя, што, зрэшты, абумоўлена тыпам выданняў.**

І ВОСЬ у пачатку васьмідзесятых гадоў, бачачы ўсе гэтыя прагалы, невялікая група супрацоўнікаў Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР пачала рыхтаваць шасцітомны «Біябібліяграфічны слоўнік беларускіх пісьменнікаў». Найперш была пастаўлена задача распісаць на бібліяграфічныя картачкі літаратурны змест усіх беларускіх выданняў — кніг, альманахаў, часопісаў, газет. Улічваліся таксама выданні, што выходзілі ў Беларусі на іншых мовах — рускай, польскай, яўрэйскай, літоўскай. Далёка не ўсе крыніцы аказаліся ў Мінску. Таму нашым супрацоўнікам давялося працягваць пошукі ў Маскве і Ленінградзе, Вільнюсе і Кіеве, Варшаве і Лондане. Наступнай задачай было ўлічыць усе пераклады твораў беларускіх пісьменнікаў на іншыя мовы, артыкулы і рэцэнзіі пра іх у друку СССР і зарубежных краін. І тут неацэнную дапамогу нам аказалі кніжныя палаты саюзных і аўтаномных рэспублік, бібліятэкі і навуковыя ўстановы краін народнай дэмакратыі, якія прыслалі інфармацыю на мове арыгінала. Дапамагалі нам таксама Кніжная палата БССР (быў улічаны змест яе «Летапісаў друку») і кафедра бібліяграфіі Мінскага інстытута культуры. У выніку ўзніклі фундаментальная рэтраспектыўная картатэка па беларускай літаратуры, дзе сёння захоўваецца каля 800 тысяч адзінак (картак) бібліяграфічнай інфармацыі, а таксама асобныя картатэкі па ўзаемасувязях літаратур, паасобных перыядах і г. д.

Наступны этап — напісанне біяграфічных і фарміраванне бібліяграфічных частак артыкулаў. Як і належыць у такіх выпадках, былі складзены слоўнік пісьменнікаў і метадычныя рэкамендацыі, якія не раз абмяркоўваліся на пасяджэннях Вучонага савета інстытута. Пры гэтым улічваўся вопыт іншых аналагічных выданняў, але бралася пад увагу і спецыфіка беларускай літаратуры (напрыклад, яе шматмоўны характар на пэўных этапах развіцця, адносна невялікая колькасць творцаў). Многа спрэчак было наконт таго, які прынцып пакласці ў аснову выдання—храналагічны ці алфавітны. Раздаваліся галасы, каб два тамы адвесці на дакастрычніцкую літаратуру і чатыры — на савецкую. Але ж у такім выпадку зноў давялося б «па жывому» дзяліць Купалу і Коласа, Гарэцкага і Бядулю, іншых пісьменнікаў, што пачалі пісаць да Кастрычніка, а потым сталі класікамі савецкай літаратуры. І таму перамаглі прыхільнікі алфавітнага прынцыпу.

**Пры падрыхтоўцы артыкулаў мы сутыкнуліся з многімі цяжкасцямі. Найпершая з іх — недахоп кадраў, неабходных для такой працаёмкай справы. Давялося звярнуцца (у рамках навуковай каардынацыі) за дапамогай да выкладчыкаў беларускай літаратуры нашых універсітэтаў і педінстытутаў. Частка пісьменніцкіх біяграфій была размеркавана паміж імі па «зямляцкаму» прынцыпу. І многія выкладчыкі падрыхтавалі нам добрыя артыкулы (асабліва хочацца тут адзначыць кафедры беларускай літаратуры Брэсцкага педінстытута на чале з У. Калеснікам і Мінскага педінстытута на чале з А. Семяновічам). На жаль, некаторыя нашы «перыферыйныя» аўтары пайшлі па шляху найменшага супраціўлення: прыслалі нам кампіляцыі з ранейшых даведачных выданняў. Такія артыкулы, зразумела, нашы супрацоўнікі вымушаны перапісваць нанава.**

**Наступная цяжкасць — нераспрацаванасць многіх пісьменніцкіх біяграфій. І не толькі старажытнага перыяду, але і нашых сучаснікаў. У розных іх аўтабіяграфіях, якія захоўваюцца ў архівах, прыведзены розныя, часам дыяметральна супрацьлеглыя звесткі. Нялёгка бывае ўстанавіць нават дакладную дату смерці. Невядома, адкуль у нас пайшла завядзёнка не ўказваць яе ў пісьменніцкіх некралогах (апошні прыклад — змешчаны ў «ЛіМе» некралог Іосіфа Скурко). Не заўсёды ўдаецца вызначыць месца смерці і пахавання (апісанні могілак у нас, у адрозненне ад іншых рэспублік, не складаюцца і не выдаюцца).**

**Што ж датычыцца бібліяграфічнай часткі, то тут, бадай, найбольш складана было кваліфікавана раскласці картачкі паводле пісьменніцкіх прозвішчаў. Асабліва ў тых выпадках, калі выяўляліся «двайнікі» — аўтары з аднолькавым прозвішчам і першым ініцыялам імя. Калі гэта нашы сучаснікі (В. Вольскі, А. Канапелька, М. Конан, А. Марціновіч, М. Мятліцкі, І. Новікаў, М. Тычына і інш.), то выхад быў даволі просты — звярнуцца пры размежаванні да саміх аўтараў (хаця і тут нярэдка чулася: «Не памятаю, маё гэта ці не маё»). А што рабіць, калі пісьменніка няма ў жывых? У такіх выпадках (А. Астрэйка, В. Барысенка, А. Бачыла і інш.) даводзілася праводзіць дадатковую даследчыцкую работу, якая не заўсёды давала плён. І вінаваты тут, думаецца, як самі пісьменнікі, так і органы друку. У тых выпадках, калі ўзнікаюць такія супадзенні, трэба падаваць не толькі першы ініцыял, але і ўсё імя. А супадаюць нават імёны — знаходзіць іншыя сродкі размежавання (псеўданім, частковая змена элементаў подпісу, як гэта робіцца, скажам, у рускім друку. Бо інакш будзе блытаніна — не цяпер, дык у наступным стагоддзі. Дарэчы, узнікалі цяжкасці і з псеўданімамі: не ўсе яны ўлічаны ў даведніку Я. Саламевіча. Даводзілася самастойна супастаўляць розныя публікацыі. Такім шляхам было расшыфравана нямала псеўданімаў і крыптанімаў, устаноўлена аўтарства многіх твораў. На жаль, не ўсіх. Нярэдка бібліяграфічную інфармацыю давялося памячаць: «Аўтарства спрэчнае».**

Аднак, нягледзячы на ўсе цяжкасці, асноўная работа над Слоўнікам летась была закончана: напісана большасць біяграфічных артыкулаў, складзены бібліяграфіі. Цяпер ідзе рэдагаванне Слоўніка, вельмі нялёгкае з-за таго ж недахопу творчых сіл. Ужо здадзены ў выдавецтва «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» тры першыя тамы (да літары К уключна), а першы з іх адрэдагаваны ўжо і энцыклапедыстамі (на чале з В. Семеняковым).

ШТО Ж ЧАКАЕ чытачоў «Біябібліяграфічнага слоўніка беларускіх пісьменнікаў»? У яго будзе ўключана звыш 1100 артыкулаў (колькасць іх павялічваецца) пра дарэвалюцыйных і савецкіх пісьменнікаў, якія цалкам або часткова пісалі на беларускай мове ці (у старажытны перыяд) на агульных для некалькіх народаў літаратурных мовах свайго часу (стараславянскай, лацінскай, польскай). Той жа палілінгвізм улічваецца і ў дачыненні да савецкай літаратуры. У Слоўніку будуць прадстаўлены аўтары, якія пісалі ці пішуць на рускай, яўрэйскай (ідыш), польскай і літоўскай мовах, але жылі ці жывуць на тэрыторыі БССР, уваходзілі ці ўваходзяць у склад СП БССР (яго нацыянальных секцый у 30-я гады), папярэдніх літаратурных арганізацый («Маладняк», «Полымя», «Узвышша», «БелАПП»), актыўна ўдзельнічалі ці ўдзельнічаюць у літаратурным жыцці рэспублікі. У выданне ўвойдуць артыкулы (з адпаведнымі ацэнкамі) пра пісьменнікаў, якія раней выкрэсліваліся з літаратурнай гісторыі (да прыкладу: Ф. Грышкевіч, М. Краўцоў, В. Ластоўскі, Я. Лёсік, А. Навіна), па розных прычынах аказаліся ў эміграцыі (Н. Арсеньева, Я. Ліманоўскі, А. Салавей і інш.). Урэшце, у Слоўнік уключаны звесткі пра беларускіх аўтараў, якія жывуць у ПНР і ўваходзяць у склад польскіх пісьменніцкіх арганізацый.

**На першапачатковым этапе работы над Слоўнікам было многа спрэчак пра крытэрыі адбору пісьменніцкіх імёнаў. Раздаваліся галасы, што трэба засяродзіцца толькі на значных талентах, рашуча адмежавацца ад пераліку «рознай макулатуры». Але тут прыходзілі на памяць словы вядомага рускага вучонага С. Венгерава, які, рыхтуючы «Критико-биографический словарь русских писателей и ученых», заявіў, што ён лічыць абсалютна ненавуковым вывучаць літаратуру толькі ў яе буйных прадстаўніках — гэта ўсё роўна, што вывучаць законы жыцця «толькі на сланах, тыграх, ільвах і мядзведзях, не зважаючы на зайцаў і трусоў». «Нельга глядзець на Слоўнік, — працягваў прафесар, — толькі як на збор асобных артыкулаў і даведак. У цэлым Слоўнік пісьменнікаў і вучоных ёсць рэгістрацыя духоўных сіл краіны...» Улічваючы гэтае і іншыя выказванні, мы рашылі не абмяжоўвацца класікай, а ўводзіць ва ўжытак увесь выразны мацярык нашай літаратуры. І сёння нам прыемна ўсведамляць, што тут не памыліліся: на тых жа крытэрыях, аказалася, заснаваны слоўнік «Русские писатели», першы том якога атрымаў высокую ацэнку ў цэнтральным друку.**

**У дачыненні да нашых сучаснікаў, што жывуць у Беларусі, мы карысталіся наступнымі, як нам здавалася, аб'ектыўнымі крытэрыямі. Па-першае, у Слоўнік, натуральна, уключаны ўсе члены Саюза пісьменнікаў БССР (з кожным новым прыёмам мы тэрмінова робім дапаўненні). Па-другое, тыя літаратары, якія не з'яўляюцца членамі Саюза, але заслужылі на персаналіі ў «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі» (Слоўнік не можа быць бяднейшы, чым яна). Па-трэцяе, тыя даследчыкі беларускай літаратуры, што маюць асобныя кніжкі і навуковыя ступені. Было прапанавана ўключаць усіх аўтараў кніжак, але гэта павялічыла б Слоўнік яшчэ на некалькі соцень артыкулаў. Яго ж аб'ём абмежаваны як нашымі кадравымі магчымасцямі, так і той датацыяй, што выдзеліў на выданне Прэзідыум АН БССР.**

Кожны артыкул Слоўніка складаецца з дзвюх частак — біяграфічнай і бібліяграфічнай. У першай з іх будуць з большай падрабязнасцю, чым у іншых энцыклапедычных выданнях, прыведзены асноўныя факты пісьменніцкай біяграфіі, дадзена агульная характарыстыка творчасці (падрабязны аналіз твораў не ўваходзіць у задачы такіх слоўнікаў). У другой, асноўнай па аб'ёме (у артыкуле «Купала Янка» яна склала, напрыклад, чатырыста старонак машынапісу), указаны, па магчымасці, усе публікацыі твораў — паасобныя кніжныя выданні і публікацыі ў альманахах, часопісах і газетах (у храналагічным парадку), пераклады, зробленыя пісьменнікам, пераклады яго твораў на іншыя мовы, у выніку чаго ўзнікне аб'ектыўная карціна ўспрымання кожнага нашага аўтара ў цэлым свеце. Асобна ў бібліяграфіі выдзелены літаратура пра пісьменніка і прысвечаныя яму мастацкія творы. У канцы артыкула ўказана, дзе захоўваюцца адпаведныя рукапісныя матэрыялы.

Нягледзячы на тое, што асноўная работа над Слоўнікам ужо закончана, аўтарскі калектыў, рэдагуючы яго, працягвае рабіць удакладненні, уносіць дапаўненні. Датычацца яны і новых фактараў біяграфій (усе яны пасылаюцца пісьменнікам на візу, але не заўсёды вяртаюцца назад), і паасобных кніжных выданняў (газетныя і часопісныя публікацыі мы былі вымушаны абмежаваць як апошнім — 1985 годам). На жаль, у некаторых выпадках мы не маем адпаведных звестак і таму вымушаны тут звярнуцца за дапамогай да чытачоў «Літаратуры і мастацтва», да шырокай грамадскасці.

А САБЛІВЫ НАШ КЛОПАТ пры рэдагаванні — пісьменнікі, якія тварылі ў 20 — 30-я гады, а потым сталі ахвярамі сталіншчыны. Упершыню ў выданні такога тыпу (у «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва «Беларусі» яшчэ даводзілася карыстацца рознымі эўфемізмамі) з'явілася магчымасць сказаць усю праўду пра тых, хто быў бязвінна рэпрэсіраваны. Ірына Багдановіч склала нам падрабязны спіс пісьменнікаў, чый лёс заставаўся — цалкам або часткова — нявысветлены (у ім — звыш 150 прозвішчаў), і спіс гэты быў скіраваны ў КДБ БССР.

**Адтуль неўзабаве прыйшоў грунтоўны адказ са звесткамі, якія істотна ўдакладняюць біяграфіі 93 літаратараў. Упершыню мы даведаліся пра трагічны лёс Алеся Гародні (Функа), Уладзіслава Дзяржынскага (Чаржынскага), Хацкеля Дунца, Антона Згіроўскага, Андрэя Капуцкага, Іосіфа Мазуркевіча і іншых. Адказ КДБ БССР дазволіць удакладніць многія даты смерці. Да прыкладу, у ранейшых энцыклапедычных даведніках гаварылася, што Уладзіслаў Галубок памёр у 1942 г., Алесь Дудар — у 1946 г., Міхась Зарэцкі — у 1941 г., Майсей Кульбак — у 1940 г., а Тодар Кляшторны, Зяма Півавараў, Міхайла Піятуховіч, Васіль Сташэўскі, Міхась Чарот — у 1938 г. На самай жа справе ўсе яны былі расстраляны ў 1937 г. 29 кастрычніка 1937 г. — сапраўды чорны дзень у гісторыі літаратуры Беларусі — тады былі расстраляны А. Дудар, М. Зарэцкі, М. Кульбак, З. Півавараў, В. Сташэўскі, М. Чарот, Я. Бранштэйн, А. Вольны, Ю. Таўбін, І. Харык, П. Хатулёў, А. Юдэльсон. Адказ КДБ БССР дасць магчымасць дакладна ўказаць даты смерці і іншых літаратараў, якія будуць прадстаўлены ў Слоўніку.**

## УПЕРШЫНЮ Ў «ЛіМе»

### Вячаслаў КЛЕБАН



Вячаслаў Клебан скончыў Ястрамбельскую васьмігадовую школу-інтэрнат і працаваў у калгасе ў в. Заліпены Ляхавіцкага раёна. Пасля арміі нейкі час на будоўлі ў Гродне, у 1987 годзе прынёс мне паказаць вершы. Паехаў у вёску, а цяпер вярнуўся са зборнікам вершаў.

Данута БІЧЭЛЬ-ЗАГНЕТАВА.

●

Не згубішся з шляху грымотных дарог,
калі да Радзімы ідзеш.
У сэрцы знямоглым бацькоўскі парог,
матуліну шчодрасць нясеш.

Спакон Беларусь плёнам працы жыве
і словам адвеку у ёй
гучыць напамін пра сіву Белавеж
і даўнасць-нябыт курганоў.

●

Гутарку поля і лесу,
сумную песню люблю.
Пад паднябеснай завесай
смагу ў крыніцы ўталю.

Кінуся ў згорклае сена...
Ноччу туман, нібы дым,
грудзі астудзіць. Застогне
вецер у лесе старым.

Маці-матуля ці мачаха? —
родная доля-зямля,
дай прытуліцца да сэрца,
возьмеш мяне апасля.

Вось па карэннях стагоддзяў
лёсу падскоквае воз...
Чуеш?
Дык вып'ем з табою
поўную чару нябёс.

### *Да беларуса*

Памяркуем памяркоўна —
ў жылах кроў адвеку чорна,
сэрца дадзена на раны
і душою зацугляны.

Бюракраты-апараты
зычаць нам загубу й латы,
каб сядзелі ні гу-гу,
сталі на адну нагу.

Каб бацькоў забылі й мову,
крук аблезлы прапанову
выкажа на ўвесь народ...
Дулю з макам, жываглот!

Покуль ёсць, трывае сілы,
на каленях да магілы
не убачыць крук мяне.
Хай з труны крыві глыне.

●

Не згасне воч тваіх цяпло,
не згіне кос зацьменне.
Кахання я не шкадаваў
і не шукаў натхнення.

Шанцуе небараку, мне,
на гэтае імгненне.
Не згасне воч тваіх цяпло,
не згіне кос зацьменне.

●

Ой, ты, песня, ліся,
чуе хай Марыся.

Голас засмучоны —
я ж не заручоны.

Малады, удалы
ды й не цалаваны,
над ракой між гаю
адзінок гуляю.

Кветачкі ў вяночак
для яе звіваю,
кідаю ў вірочак —
высок беражочак.

А яна не чуе,
а яна не бачыць,
птушка як начуе,
як салоўка плача.

●

Прытулак — хіба не душа?
Адчайны, здзеклівы, няроўны,
пішу пра ясны дзень спярша,
пасля аб вечары чароўным,
як зіхаціць, вяртае боль
і зарубцоўвае ўспаміны,
вядзе цераз мурожны дол
у золак сцішана-былінны...

●

Боль не сцепліць душы,
адыдзіся ад краю
і лісцё варушы, —
гэтак з лёсам іграю.

Ёсць у свеце імпэт
ўсё прадаць і купіць.
Дык набудзьце сакрэт,
як душу бараніць.

Як застацца глухім —
разумець і нямець.
З усяго і ва ўсім
выбіваць верша медзь.

Метэорам жыццё
праляціць і застыне.
Боль не сцепліць душы,
як не будзе святыні.

### Ігар ШАРАЙ



Прызнаюся, я была радасна ўражана, калі аднойчы Ігар паказаў мне свае вершы, напісаныя па-беларуску. Маладому чалавеку, ладам жыцця ў рэспубліцы адлучанаму ад беларускага слова, дастаткова было трохі «паварыцца» ў беларускамоўным асяродку сябрыны «Агмень», каб адчуць у душы ўладнасць спадчынна-роднай мовы. Яшчэ нельга назваць паўнаводнай гэтую крынічку, але яна прабілася і, дасць бог, ужо не перасохне. Але з сумам думаецца: гэта ж колькі талентаў змарнела, і колькі можа быць загублена ў зародку, калі Беларусь не паклапоціцца аб сваім галоўным нацыянальным скарбе — мове, калі не надасць ёй дзяржаўнай годнасці, не створыць умоў для яе ўжытку ва ўсіх сферах сацыяльнага і культурнага жыцця!.. Хочацца верыць у лепшае. Бо — яшчэ жыве Беларусь! І чарговае пацвярджэнне гэтаму — выпадак з Ігарам Шараем, які зусім яшчэ нядаўна і думаў, і размаўляў, і рыфмаваў толькі па-руску. Нарадзіўся Ігар у 1964 г. у сям'і рабочых у Салігорску. Пасля заканчэння школы, а затым Кірсанаўскага авіяцыйна-тэхнічнага вучылішча працаваў тэхнікам па абслугоўванню самалётаў у Гомелі, потым слесарам-рамонтнікам на Салігорскай абагачальнай фабрыцы, а ў апошні час — мастаком у Белаазёрскім Палацы культуры. Жывапіс Ігара, як і яго вершы, выяўляюць светлую, датклівую, добрую душу чалавека, які шукае, і сам сіліцца ствараць годны грунт уласнага зямнога існавання.

Ніна МАЦЯШ.

---

Уладзімір КЛІМОВІЧ

# Музыкаў хлеб

*апавяданне*



**Уладзімір Клімовіч нарадзіўся ў 1967 годзе ў вёсцы Ігнаткаўцы, што ў Лідскім раёне. Студэнт 4-га курса Дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута, рыхтуецца стаць акцёрам тэатра і кіно. Супрацоўнічае з рэспубліканскім друкам і тэлебачаннем.**

ІГРАЦЬ на вяселлях я пачаў даўно — мусіць, гадоў з дванаццаці. Памятаю, як позняю восенню бацька прывалок аднекуль у хату самаробныя прычындалы. Гэта быў вялікі басовы барабан, увесь у такіх дзівосна павыкручваных металічных штырах. Розныя па дыяметру, форме, даўжыні, яны тырчэлі ва ўсе бакі. На гэтыя штыры чапляліся і замацоўваліся талеркі, барабанчыкі, з навешанымі на іх блазгатулачкамі, педаль для нагі... Словам, цэлая сістэма, распрацаваная нейкім улюбёным у музыку (або ў грошы) мясцовым энтузіястам-аматарам.

— Болесь спіўся на нет. Псуе ўсю музыку. За зіму навучышся барабаніць і з вясны пачнеш з намі іграць. Ужо ж добры конь!

Наконт «каня» я не пакрыўдзіўся. Ведаў бацьку: яго хлебам не кармі, а дай з каго-небудзь пакпіць ці нязлосна пажартаваць.

Зіма на вёсцы — пара адпачынку. Сапраўды, прыйшоў дамоў з працы, управіўся з гаспадаркай — і ты вольны. Часу ў бацькі хапала, і мы рэпеціравалі ўдваіх. Ён жа ў мяне стары музыка — змалку прыліп да гармоніка. Па ўсёй ваколіцы ніводзін кірмаш, вечарынка ці скокі не абыходзіліся без яго. Ганарыўся, што аднаго разу па яго прыязджалі ажно з таго боку Ліды.

Доўгімі зімовымі вечарамі я ўладкоўваў пасярод пакоя барабан, навешваў на яго ўсё неабходнае, выштуканае майстрам, падсоўваў да напятай скуры булаву, ставіў на педаль нагу і з заміраннем браў у рукі лакава-арэхавыя палачкі... Маці з малодшаю сястрою ўжо сядзелі на ложку ў чаканні дармавога канцэрта. З печы, вытknуўшы галаву, як шпак са шпакоўні, зырыў брат. Бацька падазрона акідваў усё сямейства вачыма і затрымліваў позірк на мне.

— Як махну галавою — давай!

Ён расцягваў мяхі, выбіраў пальцамі ўступ да полькі і трос чубатай галавой. Гэта было сігналам, і я пачынаў «даваць». Да канца першага калена ў полькі мы не даходзілі. Бацька, збялеўшы ад злосці, абрываў мелодыю:

— Хто так іграе? Бот дурны! Не можаш патрапіць у такт? Чаму ў цябе нага сабе, а рукі сабе лупяць?! Ты што — палачкі трымаеш, ці фігі шчэміш? Хто так барабаніць?

— Я барабаню...

— ?..

Маці з сястрою больш ужо не маглі трываць і рагаталі, аж трасліся іківаліся з боку ў бок. А на печы верашчаў Юрасік. У блакітных бацькавых вачах з'яўляліся смяшынкі, Але ён стрымана, каб не засмяяцца, цадзіў праз зубы:

— От, сямейка... Давай адною нагой.

Пад акампанемент баяна я вычыгільваў польку адною нагой, што сілы цiснучы на педаль. Бацька на хаду мяне папраўляў:

— Моцную долю аддзяляй... І не гніся ў крук, як Стэпка Юзікава... Не адставай.

Лепш атрымлівалася з вальсам. Там не трэба было так хутка лупіць булавой, рухава валодаць палачкамі. Дый рытм мне скарыўся без асаблівай упартасці. Калі збольшага налаўчыўся, я нават зрэдку пачынаў рабіць пераборы з аднаго барабанчыка на другі. Тады, седзячы за барабанам, бацька задаволена пакрэктваў.

За зіму я налаўчыўся трохі барабаніць і польку. Сам прыдумаў новы метад: іграў «канём». Падрабляў палачкамі на барабанах, як бярэ наўскапыта конь. Здаецца, выходзіла нядрэнна.

Вясною, як ужо добра пацяплела, пад вечар, мы выходзілі на падворак. Я садзіўся на лаўку, бацька выносіў сабе з хаты крэсла.

— Няхай людзі ведаюць, — з гонарам казаў ён, — што і мы не ўломкі.

Неўзабаве прыходзіў сусед — дзед Іван. Яго добра пакруціла і пакамячыла жыццё. Здароўе забрала, аж ногі пачалі аднімацца. Але стары заставаўся аптымістам. Спыняўся каля нас, усміхаўся:

— Вечар добры, залатыя хлопцы! Я думаў, вяселле ў мяне якое пад бокам, а я нічога не ведаю. Так іграеце, што ногі самі аж падскокваюць.

— Яшчэ няма каго жаніць, — усміхаўся бацька, скоса пазіраючы на мяне.

— Чаго ж? Дзяцюк вунь скора вусы сабе адгадуе. Пэўна, дзеўкі ў галаве адны. А ты яму гэты бубен у рукі даў, быццам каню хамут на шыю павесіў.

Я чырванеў ад такіх жартаў, а стары садзіўся каля плоту на кукішкі і даставаў з кішэні «Беламор-канал», пасунуўшы на патыліцу зашмальцаваную кепку.

— Ну, то добра, залатыя хлопцы. Упішыце мне гэтага... моднага шэйгіса... каб мае ногі сапраўды затрапяталі, як уюны на патэльні...

Мы «ўпісвалі» па заказу дзеда Івана якую-небудзь папулярную трасучку. Я ад вялікага старання абавязкова выбіваўся з рытму. Бацька кісла крывіўся, а стары задаволена пляскаў у далоні, пускаючы праз нос сінявата дым.

Неяк на такі канцэрт да нас завітаў дзядзька Субач з таго боку ракі. Ён працаваў млынаром, трохі горбіўся, і левае вуха ў яго было чамусьці большае за правае разы ў два. Ён прыкаціў на падворак на старым веласіпедзе. У пярэднім коле сядзела здаравенная «васьмёрка» — аж кола ледзьве ўлазіла ў вілку.

— Здаровыя былі! — прытармазіўшы, забасіў Субач.

— О, Коля! — паставіў на табурэтку гармонік бацька. — Здароў, браце.

— Гарна пілуеце, мужычкі! Аж у нас за Лебядою бабы ў скокі пускаюцца.

— А, памаленьку трэніруемся, — махнуў рукою бацька.

— А гэта хто? Няўжо сын такі вымахаў?

— Мой балбес. А ні да машыны ён, а ні да трактара, як усе нармальныя дзеці. Дык вось, кажу, няхай хоць граць навучыцца — за плячыма не насіць. А што ты добрага скажаш?

— Сына да войска забіраюць. Хацеў, каб ты са сваім «мармонікам» падышоў.

— А калі?

— У гэтую суботу праводзіны робім. Радню пасклікалі, суседзяў, хлопцаў з дзяўчатамі...

— Добра, Коля... — бацька нешта прыкінуў, падлічыў. — Гадзін у шэсць вечара пад'едзем.

— Выратаваў ты мяне! — Субач доўга трос бацькаву руку. — Значыць, згода?

— Лічы, што так.

— А то жонка спакою не дае. Найдзі ёй музыкантаў, хоць ты вочы пад лоб падстаў.

— Вясёлая ў цябе жонка! — хітравата прыжмурыўся бацька.

— Мне ад гэтай яе весялосці аж пашчэмкі зводзіць.

Млынар скрывіўся, успомніўшы жонку, тузануў сябе за вуха і раптам пасур'ёзнеў:

— Цяпер скажы мне, Аркадзік, колькі ты бярэш грошай. Колькі скажаш, столькі і заплачу. Грошы ў мяне ёсць.

— Ат, Коля, — адмахнуўся бацька, — мы табе і бясплатна адбухаем. Сын во першы раз будзе барабаніць...

Субач аж абразіўся:

— Ты што, здурэў?! Што мне людзі скажуць? Прахвост ты, скажуць, Коля!

Але бацька стаяў на сваім:

— Не трэба! Мы з табою пасля расквітаемся. Ячменю які мяшок цішком змелеш...

— Пасля будзе пасля! А тут людзі гарэлку піць будуць, а ты пацець мусіш. Хоць барыш які вазьмі.

— Барыш? Які тут барыш?

Бацька задумаўся, чэмхаючы патыліцу. Раптам з хлеўчука пачулася ўзбуджанае сакатанне чубатак.

●

Баліць... Навошта так баліць?
Не адчуваецца палёгкі.
Мне б кроплю вечнага праліць
на свет, калі такі ён крохкі.

І зразумець: усё ж не госць,
а творца лёсу — вось што важка.
І верыць, што палёгка ёсць,
хоць і даецца вельмі цяжка.

●

Мы больш асобна. Удваіх — радзей.
І да тваіх я думак непрычынны.
Чаму з табою смуткам быць павінны
сярод шчаслівых еднасцю людзей?

І ўсё ж да твару нам — не крыўдай
стыць,
а адказаць (па сіле нам такое)
на боль — усмешкай, на дакор —
спакоем,
на заклік да жыцця — імкненнем жыць.

●

Маё жыццё наўрад ці таямніца.
Жыцця майго няўрымслівы працяг
ці здолее нідзе не памыліцца,
вырушваючы ў зваблівы абсяг?

Ці зразумее тых, хто побач крочыць?
Бясспрэчна толькі: я хачу ўвесь час
без сораму глядзець у вашы вочы,
без боязі вяртацца зноў да вас.

●

Ні шкадаванняў, ні парады.
На чым трымаецца цяпер
і непрыманне ўсякай здрады,
і міг натхнення, і давер?

І ўсё ж сабе мы дапаможам,
хоць гэты цуд не адштурхнуць:
там, за каменнай агароджай,
шалёна яблыні цвітуць.

●

Адліга. Сонца. Ветрыку раскрылле.
Прачнуліся, пабеглі побач зноў
тваё трыванне і маё бяссілле
да прамаўлення самых чулых слоў.

У чым ён, найвышэйшы сэнс кахання
працягласцю ў жыццё? І як нам быць:
ты перастала разумець маўчанне,
калі я страціў здольнасць гаварыць.

●

І добра б усё. Толькі чуецца: «Ах!»
І песеньку-сум напяваем працяжна.
І, можа, для нас не зусім ужо важна,
якія радкі дабаляць на губах.

І добра б... Але напінаецца слых.
Амаль што нічога — таксама не ліха.
Адкажам і мы падабенствам уздыха
на ваш, выпадкова упушчаны ўздых.

●

...І змрочнасць дня, любоўю не сагрэтага.
І што яшчэ ў жыцці ператрываць
нам суджана: жаданне не спяваць,
ці нежаданне мучыцца ад гэтага?

●

Узрушанасць пачуццяў — не знямога —
яшчэ адчуе небывалы ўздым.
Ва ўсіх, напэўна, нешта ёсць ад бога,
пагэтаму бязбожна цяжка ўсім.

Яшчэ настане зорная гадзіна,
калі такія словы ўзнеслі мы:
дзяцінства, маці, непакой, радзіма —
прыхільнасць да святла і да зямлі.

---

— І што за навала з гэтымі пацукамі, — маці подбегам кінулася адчыняць дзверы ў хляўчук. — Папалохаюць усіх курэй.

І тут бацька ўзвіўся, у вачах з'явілася ўсмешка:

— Ну вось. А то — за так, за так... Што мы, не людзі? — бубніў Субач.

— Толькі ведай: ты сам напрасіўся, і я з цябе ўжо не злезу.

— Не палохай. Які табе барыш?

— А ці жывы твой чорны, з белымі лапамі кот?

— Ну, жывы... Дык і што? — здзівіўся млынар. — Тых катоў у мяне цэлы падворак. Толькі спаць па начах не даюць.

—Вось ката я ў цябе і вазьму за барыш.

Ад здзіўлення Субач вытарашчыў вочы і кашлянуў у кулак.

— Якога ката? Васіля? — недаверліва перапытаў ён.

— Я не ведаю, як яго завуць — чорнага з белымі лапамі, — бацька ўсміхаўся. — І хоць ты пэнкні тут, а аддасі!

— Дзівак ты, Аркадзік, — мармытаў млынар, закідваючы нагу на свайго звасьмёранага «каня», я яму дзела кажу, а ён смяецца.

— Бяру ката і больш нічога, — стаяў на сваім бацька.

— Ну, добра, — нарэшце здаўся Субач, — я табе ўвесь свой кацячы вывадак аддам. У мяшок пасаджу і аддам. Заапарк зробіш... То да суботы!

Субач паехаў проста па сярэдзіне брукаванкі, а бацька яшчэ доўга стаяў і, смеючыся, глядзеў яму ў спіну...

У суботу, пагрузіўшы інструменты ў спісаны калгасам і выкуплены бацькам «Уазік», мы выбраліся да Субача.

— Ладны барыш мы выtargавалі, — круціў абаранак і цмокаў языком бацька. — Усім нашым пацукам — хана. І суседскім таксама. Я ўжо не кажу пра мышэй. Душыць іх, гадаў, і не есць: у рад складвае штабялямі. Скажы ты, што за звер такі! Напэўна, грэбуе імі. Але ж душыць! Я табе кажу, што за ноч нашым пацукам капец. А вучоны які! У хаце не напаскудзіць, дзверы сам лапай адчыняе. Гаспадар!

Мяне ж хвалявала зусім іншае. Я першы раз павінен быў, як казаў бацька, іграць «на людзях». І хоць мы ехалі не на вяселле, а на правodзіны, мяне чакаў сапраўдны экзамен.

Субач сустрэў нас каля шырока расчыненых варот.

— Зарулі с-свой бр-ранявік пад хлеў, — казаў ён непаслухмяным языком, па-гаспадарску расставіўшы ногі. — Цацкі выгружай і ў хату, пакуль ёсць што піць. Гарэлка ого-го атрымалася. Я й сам прычасціўся, і ў гасцей язык кантам стаў. Чуеш, як шумяць? Спяваць хочуць. Зараз пачнуць гарлапаніць.

З расчыненых насцеж вокан было чуваць, як, убачыўшы нас на падворку, загуло застолле.

— Ну, што, сыне, пакажам ім, як Клімкі з-за ракі граюць?

Я ўздыхнуў і пацягнуў у хату барабан...

Дамоў мы прыехалі позна ноччу. Бацька ледзь дабудзіўся мяне.

— Уставай, прыехалі.

Я ўсхапіўся. Успомніў скокі нейкай бабулькі, расчырванелыя твары, застольныя песні, незлічоныя «сто грам на дарогу», і як я, урэшце, не дачакаўшыся бацьку, залез ва «Уазік» і заснуў там.

Я ўзяў з задняга сядзення палатняную торбу.

— Ды глядзі, каб барыш не ўцёк!

Кот глуха зашыпеў і выпусціў праз торбу кіпцюры.

Мінуў з тыдзень. Неяк увечары, выпісваючы колам усё тую ж васьмёрку, каля нашай хаты спыніўся Субач. Твар у яго быў пакрыўджаны і злосны:

— Чаго пад нагамі круцішся? — забурчаў ён, убачыўшы мяне. — А стары дзе?

— Дома...

Млынар злез з веласіпеда і пашкандыбаў у дом. Праз паўгадзіны я зайшоў у пакой. Бацька сядзеў з ім за сталом.

— Аркадзік! — сцішана і неяк недарэчна прасіўся Субач. — Вярні ката, Аркадзік... Аддай Васіля. Жонка загрызе, калі прыеду з пустымі рукамі. Кажа: столькі гадоў жыў з намі... Ён жа як чалавек для яе. Дый сам я... Сына ў войска выправілі, Васіля табе аддалі... Асірацелі мы... Удвайгу засталіся. Аркадзік, вазьмі грошы, аддай Васіля.

— Схавай гэтыя паперкі назад, Коля, пакуль я не перастаў цябе паважаць.

Бацька ўбачыў мяне, кіўнуў галавою:

— Злаві ката.

Кот яшчэ не паспеў прыжыцца і непакоіўся, чуючы гаспадара, а саскочыць з печы баяўся.

— Такой бяды, сыне! — сказаў бацька, калі млынар знік за дзвярыма, трымаючы на руках, як дзіця, Васіля, — такі наш, музыкаў, хлеб. Мне яшчэ мой бацька казаў: «За сабою кінеш — перад сабою знойдзеш».

А я стаяў, нібы аглушаны, і, напэўна, упершыню за ўсё маё, тады яшчэ дванаццацігадовае жыццё, думаў: як добра, што ёсць на свеце такія людзі, як мой бацька.

## *Выбары і наш выбар*

**У абмеркаванні законапраектаў аб змяненнях і дапаўненнях Канстытуцыі БССР, аб выбарах народных дэпутатаў БССР і аб выбарах у мясцовыя Саветы ўдзельнічалі тысячы грамадзян нашай рэспублікі. Сярод іх — і многія чытачы «ЛіМа». Наша газета рэгулярна змяшчала на сваіх старонках іх водгукі і прапановы. (Гл. «ЛіМ» за 25.08., 1.09., 15.09., 29.09 і 6.10. г. г.).**

**Большасць нашых чытачоў выступае за радыкальную дэмакратызацыю выбарчых законаў. Пра гэта сведчаць, у прыватнасці, лісты жыхароў Мінска Л. Паляковай і Л. Равуна, В. Шаўрова з Гродна, К. Расевіч з вёскі Стахавічы Пінскага раёна, савета працоўнага калектыву аэрапорта Мінск-2, калектыву рабочых і служачых БУ-72 трэста № 15 «Спецбуд», удзельнікаў партсходу, які адбыўся на Брэсцкім камбінаце «Мастацтва» Мастацкага фонду БССР і г. д.**

**Ёсць у нашай пошце і калектыўныя лісты (пад асобнымі з іх — сто і больш подпісаў), аўтары якіх просяць апублікаваць альтэрнатыўны праект закона аб выбарах, распрацаваны БНФ «Адраджэнне».**

**Мы дзякуем усім нашым аўтарам, якія прынялі актыўны ўдзел у абмеркаванні выбарчага заканадаўства на старонках «Літаратуры і мастацтва». Спадзяёмся, што голас нашых чытачоў, як і многіх тысяч нашых суграмадзян, будзе пачуты на сесіі Вярхоўнага Савета БССР, якая пачне работу праз некалькі дзён.**

**А на завяршэнне — два лісты з Брэста, што сустрэліся ў рэдакцыйнай пошце апошніх дзён. Іх аўтары — супрацоўнікі педагагічнага інстытута — дзеляцца ўражаннямі ад таго, як абмяркоўваліся ў горадзе над Бугам рэспубліканскія законапраекты аб выбарах, закранаюць праблемы дэмакратызацыі выбарчай сістэмы і грамадскага жыцця рэспублікі.**

## ХТО Ж НЕ ГАТОВЫ?

Брэсцкая гарадская рада народнага фронту «Адраджэнне» вырашыла правесці агульнагарадскі мітынг, прысвечаны абмеркаванню выбарчых законапраектаў. Яна падала ў гарвыканком хадайніцтва аб дазволе на мітынг, але ў гэтым ёй было адмоўлена: маўляў, гарадскія ўлады самі скліkаюць сход на тую ж тэму.

Сход адбыўся. Праходзіў ён у невялічкай зале ў памяшканні аблсаўпрофа. Арганізатары сходу, на жаль, не паклапаціліся аб тым, каб апавясціць аб ім насельніцтва горада. Нават у прызначаны дзень на будынку аблсаўпрофа не было аб'явы. Прыйшлі сюды пераважна прадстаўнікі некаторых партыйных арганізацый, запрошаныя, відаць, па тэлефоне, работнікі апарата гарвыканкома, — усяго каля 200 чалавек.

Сход адкрыла сакратар гарвыканкома Т. Суворава. Сцэну заняў прэзідыум, які, дарэчы, прысутныя не выбіралі. У яго ўвайшлі дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР, сакратар гаркома партыі па ідэалогіі В. Карпук, намеснік старшыні гарвыканкома Л. Пірагоўская, сакратары райвыканкомаў.

Рэгламент быў жорсткі: выступаць 5 хвілін, гаварыць коратка і канкрэтна. Нягледзячы на гэта, прадстаўнікі дыскусійнага клуба Брэсцкага педінстытута, гарадской рады БНФ і за гэтыя кароткія хвіліны змаглі сказаць нямала канструктыўнага. Слушныя заўвагі і папраўкі да праектаў былі выказаны людзьмі розных прафесій: інжынерам, канструктарам, юрыстам, настаўнікам гісторыі і грамадазнаўства. У прыватнасці, сход выказаўся за тое, каб дэпутат выбіраўся толькі ў той мясцовасці, дзе жыве, а таксама за ўключэнне ў бюлетэні для галасавання любой колькасці кандыдатаў, але не менш двух.

Крытычныя заўвагі па законапраектах са спасылкай на горкі вопыт вясенніх выбараў выклікалі незадавальненне прэзідыума сходу. Раз-пораз чуліся патрабавальныя воклічы старшыні: «Говорите по существу!», асабліва, калі ў крытычным кантэксце прыгадваліся прозвішчы кіраўнікоў вобласці і горада.

Прапанову лічыць апублікаваныя праекты Законаў БССР як недэмакратычныя прэзідыум успрыняў чамусьці як асабістую абразу.

Прысутныя на сходзе папрасілі выказаць сваю думку аб пытаннях, якія абмяркоўваюцца, дэпутатаў Вярхоўнага Савета БССР, але яны (усе тры жанчыны) апусцілі вочы долу і як адна адмовіліся. Гэтая адмова толькі пацвердзіла думку аб тым, што каб быць народным дэпутатам сёння—мала быць добрай матальшчыцай ці даяркай. Трэба ў дадатак быць палітыкам і гаспадаром. Бо дэпутацкі мандат—гэта, перш за ўсё, адказнасць перад народам.

Не паспелі людзі ў зале ачомацца, як старшыня аб'явіў сход закрытым. Адусюль пачуліся пытанні: «А як жа нашы прапановы, заўвагі?» «А як жа з пастановай сходу? Мы ж павінны яе прыняць!»... З прэзідыума пачалі тлумачыць, што ў зале мала народу, што нельга гэты сход лічыць сходам грамадскасці горада... І гэта пасля паўтары гадзіны выступленняў!.. Прэзідыум на вачах у разгубленай грамады стаў пакідаць сцэну.

Нехта з прысутных у зале ўнёс прапанову выбраць свой рабочы прэзідыум і прыняць пастанову сходу. Толькі тады прэзідыум з неахвотай вярнуўся на сцэну. Выратаваць становішча паспрабавала Т. Суворава, якая зачытала некалькі прапаноў, што прагучалі ў выступленнях. Аднак грамаду гэта не задаволіла.

Сход выказаўся за публікацыю ўжо дапрацаваных Законаў аб выбарах, а таксама за публікацыю ўсіх альтэрнатыўных праектаў, прадстаўленых у Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР, у тым ліку прынятага на Устаноўчым з'ездзе БНФ «Адраджэнне». Удзельнікі сходу выказаліся за абавязковае раскрыццё аўтарства ўсіх законапраектаў, за прамую трансляцыю па беларускім тэлебачанні сесіі Вярхоўнага Савета БССР, за тое, каб законы прымаліся шляхам паіменнага галасавання.

**Зоя МЕЛЬНІКАВА,**
**дацэнт педінстытута.**
**г. Брэст.**

## ЁСЦЬ ЧАС ПАДУМАЦЬ

Апошнім часам з'явіліся прапановы праводзіць выбары народных дэпутатаў па вытворчых акругах. Аднак ёсць сумненні, што ў гэтым выпадку народнымі дэпутатамі стануць сапраўды прагрэсіўныя рабочыя.

Пры існуючай сістэме залежнасці рабочых ад адміністрацыі (кватэра, заработная плата, дзіцячы сад, магчымасць звальнення пад выглядам скарачэння і г.д.) можа быць так, што дэпутатамі ад вытворчых акруг будуць выбраны менавіта паслухмяныя і дагодлівыя.

Асобныя высокапастаўленыя кіраўнікі сёння шкадуюць аб тым, што народнымі дэпутатамі выбрана мала рабочых і сялян. Канешне, у любым Савеце павінны быць прадстаўнікі ўсіх сацыяльных пластоў насельніцтва. Але сёння дэпутат павінен перш за ўсё мець уласную пазіцыю. Такія дэпутаты ёсць. І гэта добра. Ды ад кожнага з іх цяпер патрабуецца яшчэ і кампетэнтнасць.

Не магу не згадаць нядаўняй нарады сакратароў партыйных камітэтаў у г. Брэсце, на якой мне давялося прысутнічаць. Нарада была прысвечана маючым адбыцца выбарам. Прамоўцы шмат гаварылі аб важнасці будучай перадвыбарчай кампаніі, тлумачылі яе асаблівасць. І было выказана меркаванне, што колькасць кандыдатаў павінна вызначацца прапарцыянальна: у рабочых свой працэнт, у іншых груп насельніцтва —свой. Але ж гэта ўжо было!

Гучала і такая прапанова: прадумаць, каго і дзе вылучаць. Пасля пачутага мне падумалася: «Няўжо ўсё ўжо вырашана і дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР засталося толькі фармальна прагаласаваць? А як жа думка грамадзян, цэлых калектываў аб неабходнасці выключэнняў антыдэмакратычных артыкулаў з Законаў аб выбарах?»

Трэба, каб дэпутаты прыслухаліся да голасу сваіх выбаршчыкаў і прынялі адзіна правільнае рашэнне. Варта задумацца і тым, хто збіраецца вылучаць сваю кандыдатуру ў народныя дэпутаты на маючых адбыцца выбарах. Ці змогуць яны быць кампетэнтнымі, прафесійнымі?

**А. ГАРБАЦКІ,**
**старшы выкладчык кафедры гісторыі КПСС педінстытута**
г. Брэст.

*Кіно*

# Час прачытання класікі

**Героі А. С. Пушкіна на «Беларусьфільме»**

ства пісьменніка, асоба меладраматычная і таму «не абуджае да сябе спачування». Аднак эскізнасць характарыстыкі Дуброўскага наўрад ці ёсць падстава аспрэчваць. Гэта — адна з асноўных небяспек, якая падпільноўвала экранізатараў. Траякураў, траякураўшчына выпісаны Пушкіным ярчэй і, паводле вызначэння Бялінскага, з «ужасающей верностью». Падобнае размеркаванне фарбаў адбылося і ў фільмах. Найперш таму, што сілы выканаўцаў роляў, так бы мовіць, не адпавядалі адна адной: ва У. Самойлава (Траякурава) — за плячыма дзесяткі вобразаў рознага плана і маштабу, у М. Яфрэмава — дэбют.

Аднак вернемся да намеру, з якім кінематаграфісты ажыццяўлялі экранізацыю. Рэжысёр В. Нікіфараў на прэм'еры сказаў: «Мы стваралі наш фільм як пратэст супраць вандэі». Слова гэта тады часта мільгала ў друку, гучала з тэлевізійных экранаў — грамадскасць пратэставала супраць беззаконня. На хвалі працэсаў дэмакратызацыі грамадства выкрыццё самадурства павятовага памешчыка, адстаўнога генерала-аншэфа Кірылы Пятровіча Траякурава ўспрымаецца не проста як экскурс у гісторыю—адчуваецца повязь часоў.

Асноўныя дзеючыя асобы прадстаўлены у садзе і доме Траякурава (у тым ліку князь Вярэйскі, якога Пушкін уводзіць у дзеянне пазней). Сутыкненне Траякурава і яго суседа (сябра па ранейшай вайсковай службе) адбываецца пасля таго, як кінакамера «суправадзіла» гледача па прадметах раскошы не надта высокага густу. Траякураў пахваляецца сваёй сабакарняй. Дуброўскі, ведаючы нораў суседа, заўважае: «Сабакарня цудоўная, наўрад ці людзі вашы жывуць таксама, як вашы сабакі». Пасля — паслугацтва Парамона, кпіны з беднасці Андрэя Гаўрылавіча, хуткі ягоны ад'езд, патрабаванне Кірылы Пятровіча вярнуцца.

З гэтага пачаўся асноўны канфлікт. Рашэнне Траякурава адняць у Дуброўскага маёнтак на экране выглядае недастаткова матываваным. (Заўважу ў дужках, што ў фільме быў яшчэ эпізод вырубкі траякураўскімі парабкамі бярозавага гаю, які належаў Дуброўскаму). Экран увогуле мае ўласцівасць узбуйняць рэчы, фігуры, але ён менш прыстасаваны да паказу патаемных матывацый учынкаў. Гэта неаднойчы адчуваецца ў экранізацыі, і тады даводзіцца па памяці ўзнаўляць вузлавыя моманты літаратурнай першаасновы. Без такога звароту, напрыклад, цяжка зразумець паводзіны судовых чыноўнікаў.

Аднак няма плёну супастаўляць напісанае і паказанае. Экранізатары ў наш час так вольна ставяцца да першакрыніц, што ўжо не лічыцца за грэх «пераніцаваць» вобраз, «перайначыць ідэю»... Пройдземся лепш па асноўных лініях і перакрыжаваннях фільмаў. Паслядоўнасць іх аднолькавая і там, і там. Толькі ў тэлевізійным — эпізоды больш разгорнутыя, чым у кінаварыянце, аднак з захаваннем асноўных дыялогаў.

На адной з дыскусій з гледачамі В. Нікіфараў, тактоўны і ўдумлівы інтэрпрэтатар найбольш значнага тургенеўскага рамана, нібы мімаходзь прызнаўся, што на гэты раз яму хацелася не столькі наблізіцца да Пушкіна, колькі паспрачацца з ім. У чым жа? У абмалёўцы Траякурава і траякураўшчыны? Бадай, так, хоць пісьменнік больш сакавіта апісаў Траякурава ў параўнанні з Дуброўскім. А калі ўлічыць асобу акцёра, што выканаў ролю ў тэлефільме, ягоны адкрыты тэмперамент, дык атрымаецца: галоўны герой экранізацыі не Дуброўскі або Дуброўскія. Па мастацкім патэнцыяле, перакanaўчасці герою У. Самойлава мог бы паспяхова супрацьстаяць герой прызнанага майстра сцэны К. Лаўрова. Аднак... Яму не хапіла ўчынкаў, дзе маглі б праявіцца апісаныя Пушкіным асаблівасці былога гвардыі паручніка з даўняга дваранскага роду, хоць у тых нямногіх эпізодах, дзе прысутнічае стары Дуброўскі, артыст усё ж змог паказаць асноўныя яго рысы — высакародства і бездапаможнасць перад несправядлівасцю.

**Паказальнік мастацкага выніку экранізацыі — вобраз маладога Дуброўскага. Хоць фільм для кінаэкранаў і называецца «Высакародны разбойнік Дуброўскі», рэжысёр не ідэалізуе галоўнага героя, а пад канец дзеяння даводзіць, што шлях разбою і помсты — згубны (гэта разумее і сам Уладзімір, пакідаючы сялян, што былі з ім). Тут яшчэ адна «змычка» даўняй гісторыі з сучаснасцю. І ўсё ж цэнтральны вобраз застаецца недапраяўленым.**

Успамінаю, як паступова, з эпізода да эпізода ўзрастала цікавасць да Базарава, якім яго адчуў і прадставіў малавядомы тады артыст Маскоўскага акадэмічнага Малога тэатра У. Богін. Гэта была знаходка і адкрыццё рэжысёра В. Нікіфарава. Доўга, пакутліва ён шукаў выканаўцу ролі Уладзіміра Дуброўскага. Шукаў не сярод «зорак», а сярод маладых артыстаў, за якімі яшчэ не цягнецца «шлейф» штампаў. Пахвальны прынцып, ім кіруюцца звычайна тыя пастаноўшчыкі, якія адчуваюць у сябе здольнасць «ляпіць» вобраз. Выбраўшы маладога маскоўскага акцёра М. Яфрэмава (сына вядомага А. Яфрэмава), В. Нікіфараў спадзяваўся, што разам яны створаць вобраз яркі і не хрэстаматыйны. Спадзяванні здзейсніліся толькі часткова. Экранны Дуброўскі выклікае давер як чалавек, які вымушаны рабіць учынкі, не ўласцівыя яго натуры (паліць бацькоўскі дом, выдаваць сябе за француза Дэфоржа, каб патрапіць да Траякурава, адпомсціць крыўдзіцелю бацькі: атаманства над разбойнікамі таксама не прыносіць яму задавальнення).

**Каханне да Машы — тое адзінае светлае, дзеля чаго яшчэ варта жыць. Ролю акцёр «праводзіць» роўна, адпаведна сітуацыям, выкладзеным у сцэнарыі. І з М. Зудзінай (Марыяй Кірылаўнай) Яфрэмаў-малодшы, як кажуць, «у пары». Знешне і ўнутрана яны стасуюцца адзін да аднаго, узнікае хваляванне за іх лёс. І ўсё ж застаецца незадаволенасць, пачуццё накшталт таго, што табе абяцалі сустрэчу з вобразам прыемна нечаканым, а прадставілі толькі абрыс. Відаць, унутраная скаванасць акцёра абумовіла эмацыянальную інертнасць. Апрача таго, здымаючы з Дуброўскага рамантычна-сентыментальную афарбоўку, рэжысёр і акцёр не знайшлі іншых якасцей, каб галоўны герой прадстаў перад гледачом асобай неардынарнай.**

**— Не ў сіле бог, а ў праўдзе,— помніць пра гэта завяшчаў сыну Андрэй Гаўрылавіч. Сцэна знята сярэднім планам, сэнсавы акцэнт зроблены мантажна-гукавой паўзай. Яна не выпадковая: рэжысёру патрэбны быў пачатак працэсу, які працягнецца і за кадрам. Яго можна вызначыць як усведамленне Уладзімірам Дуброўскім, што нават справядлівая помста — не шлях для знішчэння зла. Тут адзін з вельмі важных для аўтараў фільма момантаў, каб у фінале «высакародны разбойнік» адмовіўся ад гонару ім звацца.**

**На перакрыжаванні асноўных ліній кінаапавядання — дачка Траякурава Маша, Мар'я Кірылаўна. Яна выпісана Пушкіным у стылі памесных сціплых прыгажунь, што атрымалі добрую адукацыю і заўсёды слухаліся бацькоў. Яны здольныя на рамантычнае каханне, здольныя «згубіць галаву» і кінуцца за каханым. Калі ж такая вольнасць не пройдзе — зміраццa з лёсам, што прадвызначылі бацькі. М. Зудзіна такой і іграе Машу. Бацька не паспачуваў яе малітвам і прымусіў пабрацца са старым князем Вярэйскім. І яна скарылася. Такая пакорлівасць, вядома, не ў духу сучасных эмансіпіраваных жанчын, але экранізатары былі абмежаваны сітуацыяй першаасновы. Перайначылі яны толькі самога жаніха: у выкананні А. Рамашына ён не столькі стары валацуга, колькі прыстойнага выгляду драпежнік, які можа і характар праявіць. Калі Дуброўскі з Грышкам і Цімохам даганяюць шлюбную карэту і прапануюць Машы пакінуць яе,— Вярэйскі страляе ў Дуброўскага.**

**З павагай і адчуваннем выпісаны ў Пушкіна дваровыя, слугі, адным словам, просты люд. Экранізатары старанна персаніфікавалі акружэнне Траякурава і Дуброўскіх, стварыўшы выразныя вобразы — тыпы. Праз іх раскрываецца сацыяльны падтэкст твора.**

Увогуле фільм паводле пушкінскага «Дуброўскага»— работа кінематаграфістаў - прафесіяналаў. Сцэнарысты і рэжысёр, аператар Э. Садрыеў, мастак У. Дзяменцьеў запоўнілі экранную прастору рэчамі, пейзажамі, што арганічна стасуюцца з апісанымі ў аповесці часам і падзеямі. Перабор красамоўных штрыхоў адчуваецца толькі ў сцэнах суда, прыходу судовых чыноўнікаў у дом Дуброўскага. Настойліва карэкціраваў вобраз засядацеля Шабашкіна артыст У. Конкін. Такім яго выводзіў і Пушкін. Але экран яшчэ больш агаліў Шабашкіна і прыкметна спрасціў.

Зводзячы асноўныя кампаненты і асаблівасці абодвух варыянтаў экранізацыі да адзінага выніку, можна адзначыць, што карацейшы з іх больш дынамічны і стылістычна вытрыманы. Чатыры серыі для тэлебачання падаюцца зацягнутымі, з нястачаю ўнутранай энергіі для працяглага дзеяння. Але пад цітр «канец фільма», падумалася: дарма Бялінскі папракаў Пушкіна сентыменталізмам. Сентыменталізм не перашкаджаў пакаленням спачуваць і суперажываць. Так было пры ранняй экранізацыі, цяперашняя — больш рацыяналістычная. Які час на двары, такі і ракурс чытання класікі...

**Ефрасіння БОНДАРАВА,**
**доктар філалагічных навук.**

---

канскі ўзровень і праводзіць іх у абласных ці раённых цэнтрах з прыцягненнем шырокай грамадскасці. Добры прыклад гэтаму падае камісія музыказнаўства СК БССР, арганізаваўшы ў апошнія гады выязныя пасяджэнні — «круглыя сталы» — у Гомелі, Гродне і Брэсце з удзелам музычнай грамадскасці гэтых цэнтраў. І наогул, грамадскую і творчую дзейнасць нашага саюза неабходна рашуча павярнуць тварам да рэспублікі, да ўсіх мастацкіх арганізацый. І ў гэтым мне бачыцца адна з самых актуальных задач сённяшняга дня. СК БССР трэба ўзмацніць (а ў шэрагу выпадкаў наноў наладзіць) творчыя кантакты з оперным тэатрам, філармоніяй, Музычным таварыствам, Саюзам тэатральных дзеячаў, Саюзам пісьменнікаў, Домам народнай творчасці і інш. Гэта дазволіць грунтоўна і аператыўна вырашаць многія актуальныя пытанні ў галіне мастацкай творчасці і эстэтычнага выхавання. У ліку першачарговых задач у гэтай сувязі ўяўляецца крайне неабходным рэалізаваць даўно наспелую ідэю стварэння аддзяленняў СК БССР у абласных цэнтрах рэспублікі. Пошук новых форм творчай работы ў маштабе рэспублікі, побач з ажыўленнем унутрысаюзнай дзейнасці, будзе садзейнічаць павышэнню мастацкага аўтарытэту нашай арганізацыі, на жаль, страчанага за апошнія гады.

**Г. ГЛУШЧАНКА,**
**член праўлення,**
**старшыня камісіі**
**музыказнаўства СК БССР.**

---

# ВЕЧАР ДЗВЮХ ПРЭМ'ЕР

Памятаеце ліпеньскую нататкy пра «валютную оперу»? Гэтак назвалі мы аднаактовы спектакль «Маддалена», паведаміўшы чытачам пра яго рэпетыцыі ў Дзяржаўным тэатры оперы і балета БССР. Мінула зусім няшмат часу, і адбылася прэм'ера. «Маддалена», ранняя опера С. Пракоф'ева, была паказана ў першыя дні новага сезона. Нагадаем, што гэта першая ў Савецкім Саюзе пастаноўка малавядомага твора, з якога, як сцвярджаюць даследчыкі, пачынаўся пракоф'еўскі музычны тэатр. Ажыццявілі яе дырыжор А. Анісімаў, рэжысёр-пастаноўшчык С. Штэйн, мастакі Л. Ганчарова і Э. Грыгарук (касцюмы), хормайстар Г. Луцэвіч. Кансультант спектакля музыказнаўца Н. Саўкіна выступіла з уступным каментарыем. У ролях Маддалены, Джынара і Стэньё гледачы пабачылі Н. Рудневу, І. Шупеніча і заслужанага артыста БССР Ю. Бастрыкава.

Аднак «Маддалена» — не адзіная прэм'ера, паказаная ў той вечар. Яго прадоўжыла опера Д.Меноцці «Медыум», якая дасюль існавала — ужо тры гады! — на падмостках мінскага Клуба сяброў оперы. Мы неаднойчы пісалі пра гэту пазатэатральную работу нашых артыстаў, якую яны паказвалі ў рэспубліканскім Доме работнікаў мастацтваў, у акцёрскіх дамах Куйбышава, Вільнюса, Масквы. На вялікай сцэне «Медыум» увасобілі дырыжор М. Калядка, рэжысёр С. Штэйн, мастак Я. Ждан і ўжо знаёмы ансамбль салістаў (у партыях мадам Флоры і яе дзяцей — В. Цішына, Т. Кучынская, С. Гаўрыленка).

Вечар прэм'ер завяршыўся гаворкай у тэатральнай гасцёўні. Тут, апроч мінчан, гасцей з Масквы і Ленінграда, прысутнічалі імпрэсарыо з Заходняй Германіі пан Фэйт і містэр Р. Свіфт са Злучаных Штатаў Амерыкі, аўтар кніг пра С. Пракоф'ева (ён спецыяльна прыбыў у Мінск на прэм'еру «Маддалены»). Замежныя госці адзначылі, што ў тэатрах Еўропы і Амерыкі багата оперных зорак, але там страчана ансамблевае спяванне, якое захавалася толькі ў Савецкім Саюзе. Яны адзначылі гэтую вартасць і ў спектаклях беларускага тэатра, а таксама вылучылі цёплае гучанне аркестра. Сярод выканаўцаў асаблівую ўвагу прыцягнула В. Цішына, у абліччы якой спалучыліся вартасці і спявачкі, і актрысы.

**НАШ КАР.**



Маддалена — Н. Руднева.



Сцэна са спектакля «Медыум» (у цэнтры мадам Флора— В. Цішына).
Фота А. ХАРКОВА.

# МІЖ БЫЛЫМ І НАСТУПНЫМ

(Пачатак на стар. 5).

прызнаваў Шэкспіра, а я не прызнаю Коласа?.. Ну, хіба што па такой...

МАРАЛЬНЫ пафас нашай літаратуры і мастацтва ўсё яшчэ недастаткова высокі. Гэта асабліва бачна, калі параўнаць з класікай. Мала ў нас, напрыклад, кніг, якія па-сапраўднаму здольныя растрывожыць сумленне, абудзіць пачуццё сораму, прымусіць задумацца: «а ці так я жыву на гэтым белым свеце?» З твораў апошняга часу не задумваючыся назаву хіба што «Сумны дэтэктыў» В. Астаф'ева... А між тым наш чытач усё яшчэ ўспрымальны да «мастацка-маральных ін'екцый» — хаця і ў не такой ступені, як калісьці як бы нам хацелася. Веру, што яго душа здатная на самаачышчэнне і на адраджэнне, што яе можна «даняць», дастаць да дна і перавярнуць, — толькі які для гэтага патрэбен талент і якая грамадзянская пазіцыя!..

□

**МЯРКУЮЧЫ па настроях, сёння бадай што нікога не задавальняе маральны клімат нашага літаратурнага асяроддзя. Не падабаюцца пэўныя норавы, звычаі, завядзёнкі. Добра — што не падабаюцца. Бо гэта значыць — руціна абыякавасці да канца нас яшчэ не адолела. Спрабуюць і высветліць прычыны, знайсці вінаватых. Добра — што спрабуюць. Бо сапраўды: не сам жа сабой клімат, які нас не задавальняе, стварыўся.**

**Ну дык і хто ж яго, гэты клімат, усталёўваў?**

**Хто ж гэтыя заганныя норавы насаджаў?**

**Хто пляскаў у ладкі, што ў нас усё добра і нават выдатна?**

**Хто канкрэтна праводзіў у жыццё погляды, якія сёння можна вызначыць як досыць мутныя, хто даражыў ідэйнымі перакананнямі, якія на паверку аказаліся досыць хісткімі, хто кіраваўся маральнымі пастулатамі, якія інакш як беспрынцыпнымі і амаральнымі не назавеш?..**

**На вялікі жаль, пэўныя, канкрэтныя імёны не называюцца. Значыць — што? Вінаваты ўсе *разам, агулам*? І ўсе ў аднолькавай меры?**

**Хто, напрыклад, пладзіў падхалімаж у крытыцы? Хто акружаў сябе крытыкамі-пажамі і збраяносцамі, што спяшаліся навыперадкі біць у літаўры «гром победы раздавайся»? Яшчэ раман у часопіснай карэктуры, а ўжо рэцэнзіі на яго гатовы, ідуць у друк: каб хаця хто-небудзь не апярэдзіў і не сказаў праўду, што новы твор таварыша Масіўнага — так сабе, сярэдненькі. Але ж сказаць праўду не позна ніколі; вядома, выказаная своечасова, яна прыносіць карысць непараўнана большую; ды што ж рабіць, калі мы так прывыклі з ёю *спазняцца*. Пройдзе час, і пра тое, што падавалася алілуйшчыкамі як шэдэўры, будуць гаварыць іранічна. Як гаворыцца сёння пра многія творы канца саракавых — пачатку пяцідзесятых.**

□

КОЛЬКІ ўжо вучыла гісторыя: калі ты, будучы пісьменнікам, займаеш высокую, уплывовую пасаду — не вер крытыкам-падхалімам, якія ўсюды і скрозь узносяць да нябёс тваё кнігі і тваё імя. Не вер, бо яны хлусяць. Сыдзеш з пасады — і ад тваіх фіміямшчыкаў след прастыне. І ты вельмі скора ўбачыш, які ты «вялікі і таленавіты майстар». Нягледзячы на тое, што ты столькі зрабіў для іх дабра, — яны няўдзячна павернуцца да цябе спіной і засыкаюць, як гадзюкі. Але ты будзеш сам вінаваты: ты іх несправядліва падтрымліваў, не па заслугах даваў ім зялёную вуліцу, незаконна надзяляў матэрыяльнымі дабротамі. Ты бачыў, што яны падхалімнічаюць перад табою, ды, відаць, табе было прыемна...

Вось і шаноўны Імярэк скардзіцца ў «Дзённіку», што яму здраджваюць былыя сябры і вучні... Здраджваюць, канешне! Таму што яны не былі тваімі сапраўднымі сябрамі. Яны былі і засталіся фальшыўцамі, шаноўны! І не толькі ў дачыненні да цябе. Яны фальшыўцы наогул. Таму што яны — падхалімы. Мог бы гэта і прадбачыць, шаноўны!..

□

**МЫ МАЛА ПАПРАВІМ становішча ў эстэтычным і маральным выхаванні моладзі, калі самыя першыя кнігі дзятвы — буквары і чытанкі — не вызвалім ад вульгарна-кан'юнктурных, антымастацкіх «тэкстаў» і рашуча не павернемся ў гэтай справе да літаратуры сапраўднай — чалавечнай, мудрай, глыбоказмястоўнай, багатай на прыгожыя вобразы і яркай па мове. Чаму гэта так важна? Ды таму, што не толькі высокая паэзія, але і прымітыўная лухта лёгка западае ў дзіцячую памяць і пакідае ў ёй след нярэдка на ўсё жыццё, — вытравіць яго пасля, як правіла, вельмі цяжка. Псаванне мастацкага густу дзіцяці — рэч асабліва небяспечная. Маленькі чалавек — калі *пазней* не перавучыцца — уваходзіць у дарослае жыццё з уяўленнем, што вось гэта і ёсць сапраўдная паэзія, мастацкая літаратура... Нядаўна я зноў перагартаў беларускія буквары — даваенны, па якім вучыўся ў 1938 годзе сам, і першых пасляваенных дзесяцігоддзяў... Цяжка на душы стала. Да *якой жа «педагогікі» мы былі* апусціліся! З вышынь, пазначаных імёнамі Ушынскага і Талстога, Коласа і Цёткі...**

**Вядома, былі ў чытанках і шчаслівыя выключэнні. Можа, яны і ратавалі нас, перабівалі і перамагалі ўсю тую «высокаідэйную» няўдобіцу? У час вайны, помню, упершыню давялося прачытаць урывак з «Новай зямлі» — «Раніца ў нядзельку»: захапленню не было мяжы...**

**Як горка, што дзесяткі гадоў у першых дзіцячых падручніках па літаратуры было столькі выпадковага, кан'юнктурнага, прымітыўна-ілюстрацыйнага... І гэта пры такіх багаццях нашай паэзіі і прозы, нашага нацыянальнага фальклору!..**

□

ПІСЬМЕННІКІ пастаўлены ў прыніжанае становішча ў выдавецтвах. Нярэдка яны вымушаны трымацца як жабракі-папрасімцы, дагаджаць і падлізвацца — каб, крый бог, не ўгнявіць таго, ад каго залежыць выданне кнігі, і яе аб'ём, і якасць афармлення, і многае іншае. Яны трымаюцца так, як быццам нешта даюць пісьменніку са сваёй уласнай кішэні, як быццам ашчасліўліваюць міласцінай. Таму і прымушаюць насуперак волі аўтара рабіць праўкі, мяняць словы, выкідваць радкі, строфы і цэлыя вершы або старонкі прозы, што ведаюць: а дзе ж ты дзенешся? Ты цалкам залежыш ад нас. Іншага месца, дзе б ты мог выдацца, няма... Так, стукнуць дзвярыма і пайсці да другога выдаўца пісьменнік не можа. Значыць, трэба, шляхам дэмакратызацыі выдавецкай справы, дабівацца такіх перамен, каб пісьменнік цалкам адказваў за напісанае ім, каб ніхто не дыктаваў яму — як можна, а як не можна, каб да яго былі адносіны ў вышэйшай ступені паважлівыя. Як і павінна быць у цывілізаванай, культурнай краіне. Праўда, у самы апошні час сітуацыя, здаецца, пачала мяняцца ў лепшы бок. Дай жа божа! — як-то кажуць, уздыхнуўшы, людзі.

□

**ІСЦІНА пазнаецца ў параўнанні... Сёе-тое лепш бы не параўноўваць, а то ад крыўды задушыцца можна... Ёсць на свеце краіна Балгарыя — славянская, як і Беларусь, і па насельніцтву роўная Беларусі, і гістарычным лёсам падобная... Дык вось балгары, як і ўсе добрыя людзі ў свеце, выдаюць на роднай мове перакладную літаратуру. Колькі? Нам, беларусам, такая колькасць і не снілася. Агулам кажучы — перакладаецца і выдаецца ўсё, што мае больш-менш значную мастацкую вартасць — і з класікі, і з сучаснай літаратуры. Праілюструю толькі на адным прыкладзе. Жорж Сіменон — не самы любімы і пашаноўны ў Балгарыі замежны пісьменнік, а яго творы на балгарскай мове выходзілі асобнымі выданнямі — з 1939 па 1987 год — дзевятнаццаць разоў! Жорж Сіменон — на балгарскай — дзевятнаццаць выданняў! А ў Беларусі — на беларускай? Адна аповесць у калектыўным зборніку?.. Дык ці будзем пазнаваць ісціну ў параўнанні?.. Будзем. У суседняй Літве з 1940 па 1986 год выдадзена больш за 10 тысяч кніг мастацкай літаратуры, з іх — 54 працэнты складаюць пераклады (звесткі ўзяты з газеты «Правда» за 15 чэрвеня 1987 г.). 54 працэнты — гэта каля 6 тысяч кніг. За сорак шэсць гадоў. Прыкладна — па 130 кніг на год, у сярэднім.**

**Ну, а колькі ж выдалі мы ў Беларусі за гэтыя самыя сорак шэсць гадоў — на фоне шасці тысяч літоўскіх? Няцяжка падлічыць, ведаючы, што была доўгая паласа часу, калі ў год мы выдавалі па тры, і па сем, а то і зусім адну... У апошні час выдаём у сярэднім каля дваццаці перакладных кніг у год. Зрух, вядома! І аднак жа — якая беднасць! Якая ганьба і сорам!..**

**Дарэчы, па становішчы ў галіне мастацкага перакладу можна меркаваць і аб тым, наколькі высокае ў нас, беларусаў, пачуццё нацыянальнай годнасці. Мы прыніжаны, як жабракі, і пры гэтым яшчэ чакаем і хочам, каб нас *паважалі*. Год назад у выдавецтве «Мастацкая літаратура» быў нейкі чыноўнік з Масквы, з Дзяржкамвыда, і зрабіў заўвагу, што мы ў Беларусі занадта шмат выдаём балгарскіх кніг. Дазнаўшыся пра гэта, я доўгі час хадзіў з пачуццём, пра якое кажуць: не знаю, што рабіць: ці плакаць, ці смяяцца... Удумацца толькі: мы злоўжываем выданнем балгарскай літаратуры! Балгары кожны год выдаюць пяць беларускіх кніг. А мы — балгарскіх? У лепшым выпадку — у год адну. Вось такая ў нас з братамі-балгарамі арыфметыка. Але што гэта значыць? А значыць гэта вось што. Мы прыехалі ў госці. Для нас — багатае застолле, яды і пітва ўсялякага. Праз нейкі час тыя, у каго мы гасцілі, прыехалі да нас. А мы ім — адзін чаёк на стол, ці толькі вады напіцца... Але хто так робіць? І як называюць тых, хто гэтак робіць?..**

□

НАТУРАЛЬНАЕ ВЫДАННЕ замежнай мастацкай літаратуры на беларускай мове спынілася паўстагоддзя назад —у сярэдзіне 30-х. Натуральнае — значыць, у такім выбары імён і твораў (найлепшых, зразумела) і ў такім аб'ёме (як мага большым), каб гэта перакладная літаратура магла заняць прыкметнае месца ў духоўным жыцці беларускага народа, каб яе прысутнасць адчувалася ў культурным побыце жыхароў рэспублікі, каб яна актыўна ўдзельнічала ў маральна-эстэтычным выхаванні чытачоў, асабліва — маладых, школьнікаў. Карацей кажучы, каб і ў нас было так, як ва ўсіх цывілізаваных, культурных краінах свету. Як там, дзе разумеюць, што без далучэння да мастацкіх скарбаў іншых краін і народаў свая нацыянальная духоўная культура арганічна развівацца не можа. Разумеюць — і на практыцы зрабілі гэта разуменне прынцыповай дзяржаўнай палітыкай у сферы культуры, асветы і кнігадрукавання.

Дык вось, да сярэдзіны 30-х гадоў такая дзяржаўная палітыка, хаця і з пэўнымі абмежаваннямі, праводзілася і ў нас, у Беларусі. Абмежаванні датычылі перш за ўсё выдання замежнай навуковай літаратуры, мастацкай жа перакладалася параўнаўча многа. А пасля — з гэтага параўнаўча многа не засталося амаль нічога. Па зразумелых прычынах: калі наогул быў узяты курс на «зліццё» нацыянальных моў і саміх нацый—дык які тут можа быць клопат пра развіццё беларускага мастацкага перакладу? Пра якое выданне навуковых кніг замежных аўтараў можа быць гаворка? Думайце, таварышы пісьменнікі, аб тым, каб патрошку і самі пераходзілі ў сваіх пісаннях на рускую мову. А то — толькі разнабой ды непісьменнасць плодзіце...

Так і цягнулася гэта новая выдавецкая палітыка аж да нядаўняга часу. Цэлага паўстагоддзя! Сёе-тое з перакладаў выдавалася — хоць адна, хоць тры, хоць пяць кніжак у год, — але без ніякай сістэмы і агульнай культурнай канцэпцыі, найчасцей — або штосьць зусім выпадковае, або афіцыйна-паказушнае, для дзяржаўнага прэстыжу, у сувязі з якім-небудзь вялікім літаратурным юбілеем ці чарговай дэкадай культуры. Пэўныя змены ў лепшы бок абазначыліся дзесь у сярэдзіне 70-х, калі пачалі выходзіць штогоднік перакладной літаратуры «Далягляды», серыйныя выданні «Паэзія народаў свету», «Паэзія народаў СССР» і інш. Хоць і вельмі малымі крокамі, але справа пайшла наперад. Галоўнае — паявілася прадуманасць, сталі высоўвацца разумныя прынцыпы... Нядаўна зацвердзілі план выдання сусветнай класікі ў ста тамах... Як-то кажуць — зусім весялей робіцца. Але «паказушнасць» далёка яшчэ не пераадолена. І самае крыўднае —беларускія школьнікі па-ранейшаму не атрымліваюць на роднай мове шэдэўры сусветнай дзіцячай літаратуры. Гэта — не адна сотня кніг, любімых у дзятвы любой краіны. Хто пазбавіў гэтай радасці, гэтага чытацкага шчасця беларускіх дзяцей — адказу пакуль няма. Не ведаем. Але ж аднойчы ўсётакі даведаемся, ці не праўда?..

□

**КОЛЬКІ ЗА ЖЫЦЦЕ даводзілася чытаць высокапафасных вершаваных радкоў, накшталт: «О, зямля, Айчына наша, тваіх багаццяў не злічыць — тваіх лясоў, азёр і рэк!..» Дзесяткі гадоў з дня ў дзень грымела ў краіне гэта бяздумная рыторыка пра нашы нібыта незлічоныя багацці. Грымела і, на вялікі жаль, да канца яшчэ не адгрымела. Падобнай, я сказаў бы — вельмі шкоднай, траскатні чуецца яшчэ нямала і сёння. Забароны ў сферы мастацтва наогул указам не ўстанаўліваюцца, але, на маё перакананне, паяўленне ў друку, на радыё і на тэлебачанні такой «патрыятычнай паэзіі» трэба катэгарычна забараніць. Гэта — ідэйна шкодныя творы. Яны заахвочваюць варварскія адносіны да прыроды, да яе лясных, водных, выкапнёвых і іншых сыравінных рэсурсаў. Яны выхоўваюць бяздумна-паразітычны настрой і спосаб гаспадарання на зямлі. Пафас *патрыятычнай паэзіі сёння павінен быць* процілеглы: у абарону зямлі і ўсіх яе багаццяў, якія — *і* не бяздонныя, і не бясконцыя. Не бачыць і не разумець гэта — злачынна.**

□

ЛІТАРАТУРА жыве і трымаецца праўдай. Без праўды яна зіпае, як рыбіна, выкінутая на пясок, што толькі разводзіць шчэлепы і бездапаможна канае. Без праўды літаратура траціць голас і нямее. Яна пішацца і выдаецца, але яе ніхто не чуе — да чалавечага сэрца яна не даходзіць.

1985—1988.

1.

ІШОЎ канец шасцідзесятых. У асяроддзі літаратараў сталіністы бралі верх і паступова выгрызалі ўсё перадавое, што ўзрадзілі XX, XXII з'езды. Быкава і яму падобных штодзённа малацілі ды ганьбілі мінскія і маскоўскія газеты. Па бібліятэках знялі некаторыя яго творы. У Гродне пачалася расправа над некаторымі яго сябрамі.

Першага выключылі з партыі ды пазбавілі звання дацэнта Барыса Клейна. Аўтара папулярных кніжак, папулярнага лектара таварыства «Веды» звольнілі з працы ў мед-інстытуце і адправілі юрысконсультам на базу гародніны. З-за дрымучай сваёй абмежаванасці мясцовыя кіраўнікі палічылі яго ідэйным натхніцелем ды галоўным вінаваўцам таго, што Быкаў у творах такі рэзкі.

Клейну «прышылі» антысаветызм. Падлавілі на фразах тыпу «кансерватыўныя, застарэлыя і няздольныя ўжо да нічога крамлёўскія кіраўнікі, «мацёрыя сталіністы», якімі ён карыстаўся на лекцыях перад студэнтамі, таму яшчэ і выключылі з партыі. Член бюро гаркома Генадзь А., зняважліва празваны ў горадзе проста Генкам, адбіраючы білет, заглянуў у яго туды, дзе адзначаюць суму партузносаў, і са зларадным задавальненнем *аб'явіў*:

— Ну, цяпер ты столькі атрымліваць, вядома, не будзеш!

А са мной падзеі разгортваліся гэтак.

Паклікаў мяне сакратар абкома партыі па прапагандзе ды *паставіў пытанне рубам: ты*, камуніст, думаеш крытыкаваць Быкава за ачарненне савецкай рэчаіснасці, ці не думаеш? Пачаў я даводзіць, што Быкаў піша аголенымі нервамі, у яго аповесцях і апавяданнях суровая праўда жыцця ў спалучэнні *з любоўю да чалавека і болем* за Радзіму, што ён сам, хоць і беспартыйны, піша з чысцейшых партыйных пазіцый, што за ім будучыня, таму аўтара такога не крытыкаваць трэба, а вылучыць на Дзяржаўную прэмію.

Сакратар мяне абарваў:

— Яшчэ і прэмію яму? За тое, што піша? Пішам мы ўсе — у тым ліку і я! А наконт партыйнасці мы разбіраемся лепш! Значыць, удзельнічаць у перавыхаванні Быкава адмаўляешся? Што ж, наракай на сябе. Знойдзем матэрыял і з табой зрабіць тое самае, што з Клейнам. Аддзелім ад яго абодвух — адумаецца і ён!

Неўзабаве навіна — КДБ вядзе допыт знаёмых, корпаецца ў маёй біяграфіі. Папярэдзілі Максіма Танка, каб спатрабаваў ад мяне заяву аб звальненні з пасады сакратара гродзенскага аддзялення СП БССР. Апрача «Нового мира», усе рэдакцыі вярнулі мне рукапісы...

Паперы тыя няхай паляжаць, а заявы такой не падам — дудкі!

Адным словам, я яшчэ думаў, — пранясе. Наконт сваёй пасады пэўны быў. Маё ж аддзяленне — лепшае ў рэспубліцы, кіраўніцтва не нахваліцца. І з біяграфіяй у мяне — парадак, у часы выпрабаванняў на печы не ляжаў.

Пэўнасць мая была дарэмнай.

Нечакана склікалі сакратарыят, і той, быццам бы за развал работы, мяне з пасады *звольніў*.

А падзеі яшчэ толькі набіралі разгону.

Аднаго дня нейкі камандзірскі бас надтрэснутым голасам па тэлефоне загадаў:

—Карпюк? Спрячь самиздат! Спрячь немедленно! Вынеси его из дому к чертовой матери!

Барыс САЧАНКА




# Па слядах Скарыны

ВАРШАВА ў часы Скарыны не была сталіцай Польшчы. Сталіцай Польшчы быў тады Кракаў. Сталіцай Варшава стала значна пазней, — у 1596 годзе. І нават пасля таго, як стала яна сталіцай, каранацыя польскіх каралёў праходзіла ў Кракаве. Варшава сёння... Гэты раз яна здзівіла надпісамі на сценах дамоў, плакатамі, лістоўкамі: «Прэч Ярузельскага!», «Прэч Польскую Аб'яднаную рабочую партыю!», «Вітаем «Салідарнасць»!» Здзівіла Варшава і сваімі чэргамі. Хоць была нядзеля і магазіны не працавалі, аднак чэргі стаялі. Самыя вялікія, як мы заўважылі, ля мясных магазінаў. Польскія сябры растлумачылі нам — чэргі будуць стаяць усю ноч, да адкрыцця магазінаў. Справа ў тым, што з першага жніўня ў Польшчы ўводзіцца так званая «рынчачная эканоміка» і цэны на многія тавары падымуцца ў некалькі разоў. І тыя, у каго ёсць грошы, хочуць іх атаварыць. Да таго ж, выдадзена на рукі столькі картак на мяса — да гэтага ў Польшчы мяса прадавалася толькі па картках, — што не хапае на ўсе мяса. Узнікла як бы новая прафесія — займаць чаргу і прадаваць яе раніцою тым, хто мае карткі ці грошы і не хоча альбо не мае часу стаяць у чэргах. Вострая палітычная барацьба, якая была ў нізах, зараз перанесена ў вышэйшыя эшалоны ўлады — у Цэнтральны Камітэт партыі, у сенат і сейм. Краіну трэба выводзіць з зацяжнога крызісу. А як? Селянін не зацікаўлены прадаваць гораду хлеб і мяса, нявыгадна яму рабіць гэта: нізкія закупачныя цэны. Польскія сябры, з якімі мы сустрэліся, як кажуць, у неафіцыйных умовах, многае растлумачылі, расказалі. Самае небяспечнае — страчана вера, надзея, што становішча можна як-небудзь выправіць у бліжэйшы час. Эканоміка развалена, ніхто не хоча працаваць, людзі кінуліся ў перапрадажу, спекуляцыю. Сёйтой спадзяецца на дапамогу багатых капіталістычных краін, маўляў, «Салідарнасць» такім шляхам выратуе краіну ад голаду і краху. Эканамічныя, палітычныя праблемы накладваюць свой адбітак на варшавян — яны сталі больш строгія, засяроджаныя. І не толькі знешне, але і ўнутрана. Няпоўныя суткі, што правялі мы ў Варшаве, узбагацілі нас і ўражаннямі ад горада, і новымі думкамі пра тыя складаныя працэсы, што адбываюцца сёння ў Польшчы...

І ЗНОЎ дарога. Цяпер на Прагу. Чэргі ў Варшаве каля магазінаў за ноч значна выраслі. Дадалося, здаецца, і не зусім прыемных надпісаў, лістовак на сценах дамоў. А, можа, іх і раней было больш на ўскраінах, чым у цэнтры?

За горадам зноў пацягнуліся палоскі жыта, ячменю, аўса, бульбы. Ураджай сёлета добры, пара яго ўбіраць. Яго і ўбіраюць — жнуць, косяць косамі, жняяркамі. Пераспелае збожжа асыпаецца. Кідаецца ў вочы і яшчэ адно — на лугах амаль няма статкаў, не пасвяцца гэтак, як у нас, каровы, авечкі, козы, свінні. Калі дзе і ўбачыш жывёліну, дык адну, дзве.. Сям-там снапы накладаюць на вазы, вязуць з поля. Мы, у Беларусі, ад такога даўно адвыклі...

Нечакана наш аўтобус спыняе польскі міліцыянер. Шафёры смяюцца. «Няйнакш, закурыць пан міліцыянер захацеў». Бяруць некалькі пачак цыгарэт, ідуць адкупляцца. Вяртаюцца хвілін праз колькі, расказваюць: «Не вельмі хацеў браць, кажа, цыгарэты танныя. Ну, ды няхай гэтыя курыць».

(Заканчэнне. Пачатак у мінулым нумары).

З Адамам Мальдзісам, які таксама выкіраваўся ў «скарынінскую» паездку, вядзём няспешную размову пра тое, што ён спадзяецца ўбачыць і знайсці ў Празе. У яго вялікая надзея на сустрэчы з вучонымі Мілаславам Зімам і Ф. Сокалавай — яна ў 1978 г. апублікавала важны дакумент, які датычыць нашага выдатнага першадрукара — выпіску з ліста караля Фердынанда І ад 21 ліпеня 1539 года, у якім кароль канстатуе, што Багемская камора выплаціла «майстру Францыска» ўсе даўгі і паведамляе, што садоўнік быў на яго двары, потым нейкі час жыў у Ноесштадце. Ці не мае Ф. Сокалава нейкіх яшчэ дакументаў, якія яна мяркуе змясціць да юбілею нашага слаўнага земляка? Хоча Адам Іосіфавіч «увесці ў вушы» чэшскім вучоным і сваю думку адносна пошукаў далейшых слядоў Скарыны, калі той звольніўся з пасады каралеўскага садоўніка — ці не выехаў ён у які-небудзь меншы за Прагу гарадок, у той самы, да прыкладу, Крумлёў, дзе потым апынуўся яго сын? А, можа, і магіла Скарыны дзенебудзь там захавалася? За тыя некалькі дзён, што будзем у Чэхаславакіі, вядома, знайсці што-небудзь сенсацыйнае цяжка. Але чэшскія вучоныя могуць гэта зрабіць, калі скіраваць іх пошукі ў пэўным напрамку... Ды яны многае і зрабілі ўжо, знайшоўшы невядомыя дасюль дакументы, што датычаць Скарыны. З асаблівай цеплынёй А. Мальдзіс гаворыць пра А. В. Фляроўскага — рускага вучонага, які доўгі час жыў у Празе і ўсё сваё жыццё цікавіўся нашым першадрукаром...

У мяне планы куды сціплейшыя. Пахадзіць па тых сцежках-дарожках, па якіх хадзіў наш славуты зямляк, пастаяць ля таго летняга палаца каралевы Ганны, які будаваўся пры Скарыне, убачыць тое месца, дзе садзіў «каралеўскі садоўнік» сад... Ды і на вуліцы той пабываць, дзе была першая беларуская друкарня... Хацелася мне наведаць і могілкі, дзе пахаваны многія вядомыя дзеячы беларускай эміграцыі. І, вядома ж, сустрэцца з сім-тым, ды яшчэ паспрабаваць утварыць і Таварыства беларускай мовы за мяжою (клопат члена рады ТБМ).

— А ў Славянскім аддзеле Пражскай бібліятэкі ты не хацеў бы пабыць? — хітравата, з падкусам спытаў у мяне Адам Іосіфавіч.

— Калі ты мяне туды завядзеш, — адказаў я, зразумеўшы намёк сябра. Хто-хто, а ён ведае мае кніжныя інтарэсы.

— А я, калі табе прызнацца, хацеў бы хоць паўдня папрацаваць у гэтым аддзеле. Там жа, па маіх звестках, ёсць тое, чаго нідзе няма ў кнігасховішчах нашай краіны...

Што ж, як кажуць, дай бог — хто адмовіцца пабыць у бібліятэцы, ды яшчэ такой!

У ПЕРШАПАЧАТКОВЫЯ нашы планы не ўваходзіла заязджаць у Чэнстахоў і там спыняцца, рабіць экскурсію на Ясную гару, дзе знаходзіцца кляштар паўлінаў, а ў ім — адна з галоўных святынь палякаў — абраз Маткі боскай. Але, даведаўшыся, што праязджаем міма Чэнстахова, збочылі з дарогі — вялікае жаданне ва ўсіх было пабачыць і гэты кляштар і ледзь не легендарны абраз. Праўда, наш праваднік — «пілот» папярэдзіла нас: абраз Маткі боскай чэнстахоўскай паказваецца толькі па вялікіх святах. Але цуды здараюцца і ў будзённыя дні — заязджаюць багатыя турысты, плацяць добрыя грошы, і кляштар ідзе на пэўныя парушэнні... Раптам нам пашанцуе?..

Нам сапраўды пашанцавала — мы ўбачылі абраз Маткі боскай чэнстахоўскай. Якраз у кляштары (ён заснаваны ў 1382 годзе) была вялікая група замежных турыстаў, яны не пашкадавалі грошай, і кляштарнае начальства дазволіла паказаць гэты абраз.

Вядома, кляштар многа разоў абнаўляўся, перабудоўваўся, і цяпер гэта велічны і надта ж прыгожы гмах, куды ўваходзіць некалькі самых розных пабудоў. Пры кляштары ў манастыры жывуць манахі-паўліны, якія носяць своеасаблівае адзенне — не чорнае, а ружова-малінавае. Прадаюцца тут і розныя культавыя атрыбуты — цэлыя базары! — у тым ліку і абраз Маткі боскай чэнстахоўскай — Чорнай Мадонны з дзіцем...

ЧЭХАСЛАВАКІЯ па сваім укладзе жыцця вельмі ж адрозніваецца ад Польшчы. І гэта мы адчулі, ды і ўбачылі адразу ж, як толькі пераехалі мяжу. Палі тут шырокія, роўныя, дагледжаныя. Няма і цераспалосіцы — гаспадарка не індывідуальная, а калектыўная. Пасевы таксама не параўнаць з польскімі: пшаніца — дык пшаніца, буракі — дык буракі. І апрацаваны, як кажуць, каб лепей, дык начорта, — нідзе ні травінкі. Дарогі абсаджаны яблынямі, грушамі, слівамі, абрыкосамі, вішнямі...

У вёсках таксама адмысловы парадак — вуліцы чыстыя, заасфальтаваныя, з тратуарамі; каля кожнага доміка — зялёны газон. Самі домікі прыгожыя, цагляныя, крытыя чырвонаю чарапіцаю.

— Вось у каго трэба ўсім нам вучыцца! — не вытрымаў, усклікнуў хтосьці ў аўтобусе.

Вучыцца ў чэшскіх сяброў ёсць чаму. І не толькі, як трэба гаспадарыць на палях, трымаць парадак у людскіх паселішчах, а, наогул, і як жыць. Прадуктаў у магазінах хапае, якіх хочаш. Ды і іншых тавараў нічуць не менш, чым у любой капіталістычнай краіне. Пасля Польшчы, дык быццам трапляеш у рай. Нават ад мясных і каўбасных вырабаў аж, здаецца, гнуцца вітрыны і прылаўкі. Праўда, нашы знаёмыя чэхі патлумачылі нам: усё даражае, ды так, што сям'я можа дазволіць сабе есці мяса хіба толькі адзін раз на тыдзень.

ЗДАЕЦЦА, пра гэты горад — Злату Прагу і чытана нямала, аднак, як выявілася, сапраўды лепш раз убачыць, чым сто разоў пачуць. І ўражвае яна перш за ўсё старадаўнасцю, якая выдатна захавалася да нашых дзён. Што ні палац, дом — хараство неапіснае. А якія плошчы, вуліцы і вулачкі! А масты! Ды і помнікі каралям, палкаводцам, пісьменнікам, вучоным!

Вядома, нас найбольш цікавіла скарынінская Прага. І першая наша паездка была на Градчаны да летняга палаца каралевы Ганны. Ён захаваўся і ў даволі добрым стане. Зараз палац уваходзіць у рэзідэнцыю прэзідэнта і там ідзе рамонт. Навокал палаца — вялікі стары парк. Вядома, думаць, што растуць у ім тыя дрэвы і кусты, якія садзіў Скарына, наўрад ці варта, хоць сёе-тое, магчыма, ад тых часоў і захавалася. Ды і цяперашнія дрэвы маглі ж вырасці ад насення ці каранёў тых дрэў, якія пасадзіў Скарына...

Пахадзілі па парку, пастаялі ля самых старых дрэваў — а яны ў некалькі абхватаў — дубы, кляны, ясені, ліпы...

Наведалі мы і Карлаў універсітэт, які быў заснаваны яшчэ ў 1348 годзе імператарам Карлам IV і дзе, несумненна, неаднаразова бываў Ф. Скарына, магчыма, нават вучыўся. Паблукалі і па тых вуліцах, дзе, мяркуюць, былі друкарні тагачасных чэшскіх выдаўцоў, і, відаць жа, Скарыны...

Наогул, у Празе здавён добра прыжываліся беларусы і адчувалі сябе іншы раз не горш, як дома. І першы, хто праклаў сюды дарогу — нават не дарогу, а торны бальшак, — вядома ж, быў Францыск Скарына. Асабліва вялікая калонія беларусаў у Празе жыла на пачатку дваццатых гадоў нашага стагоддзя. Чэшскі ўрад спачуваў беларусам, дапамагаў, нават выдзеліў некалькі стыпендый. Можа, таму, што чэхі ведалі, як цяжка ідзе адраджэнне народа — прайшлі ж самі праз гэта. Тады ў Прагу ехалі, ішлі юнакі і дзяўчаты з усёй Заходняй Беларусі, каб атрымаць адукацыю, набыць спецыяльнасць. У Празе ўтварылася некалькі беларускіх арганізацый, у тым ліку і Беларускае (Крывіцкае) культурнае таварыства імя Ф. Скарыны, Аб'яднанне беларускіх студэнцкіх арганізацый, якое выдавала свае друкаваныя органы. У Празе была і рэзідэнцыя «ўрада» БНР на эміграцыі, які ўзначальваў «прэзідэнт» Пятро Крэчэўскі. Ён не пагадзіўся з самароспускам урада БНР, які быў аб'яўлены ў Берліне ў кастрычніку 1925 года, назваў самароспуск «авантурызмам і падлогам», «здрадай незалежнасці Беларусі». Калі ў 1928 годзе Пятро Крэчэўскі памёр, «урад» БНР узначаліў Васіль Захарка. Тут, у Празе, працавалі і многія беларускія пісьменнікі — У. Жылка, І. Дварчанін... І. Дварчанін не толькі скончыў Карлаў універсітэт, але і стаў доктарам філасофіі, абараніўшы дысертацыю «Францыск Скарына як культурны дзеяч і гуманіст на беларускай глебе». Перад вайной сюды прыехала, выйшаўшы замуж, паэтэса Ларыса Геніюш, а ў вайну — сусветна прызнаны спявак Міхась Забэйда-Суміцкі. Жывуць і сёння ў Празе людзі, якія шмат робяць для чэшска-беларускіх культурных сувязей — прафесар Вацлаў Жыдліцкі, доктар Міласлаў Зіма, даследчыца Ф. Сокалава і іншыя. З Вацлавам Жыдліцкім і Мілаславам Зімам мы сустрэліся (Ф. Сокалава была якраз у ад'ездзе). Вацлаў Жыдліцкі, сяк-так справіўшыся з хваробамі, што апанавалі яго ў апошнія гады, працуе над новымі перакладамі беларускай прозы (пераклаў ужо многія творы В. Быкава, Я. Брыля, У. Караткевіча, І. Пташнікава і інш.), а таксама рыхтуе да перавыдання двухтомны «Слоўнік пісьменнікаў Савецкага Саюза» (першае выданне выйшла ў 1977 г.), у якое ўвойдуць біяграфічныя даведкі больш як на сто беларускіх пісьменнікаў. Доктар Міласлаў Зіма — ён рэцэнзуе ў навуковых выданнях і перыядычным друку амаль усё вартае, што з'яўляецца ў нашых часопісах і кнігарнях — некалькі дзён не адыходзіўся ад нас, каб пачуць, чым жыве сёння наша філалогія і літаратура. Дарэчы, і Вацлаў Жыдліцкі і Міласлаў Зіма выдатна ведаюць беларускую мову, размаўляюць на ёй так, што не скажаш нават, што яны не беларусы — без усякага акцэнту.

А ці ёсць у Празе, ці жывуць сёння беларусы? Так, ёсць, жывуць. І з адной з беларусак — Надзеяй Кастэцкай мы сустрэліся, пазнаёміліся. Родам яна з-пад Баранавіч, некалі спявала ў хоры Г. Цітовіча. Але здарылася так, што яна трапіла ў Варшаву якраз напярэдадні паўстання 1944 года. Вырвацца з акружэння на ўсход не ўдалося. Выпадак прывёў яе ў Прагу. Тут яна сустрэла свайго суджанага — артыста-музыканта, выйшла замуж. І жыве да сённяшніх дзён... Надзея Кастэцкая добра ведала нашага славутага спевака Міхася Забэйду-Суміцкага, сябравала з ім. І цяпер, пасля яго смерці, даглядае магілу. Яна, Надзея Кастэцкая, і завяла нас на Альшэўскія могілкі, дзе пахаваны М. Забэйда-Суміцкі, паказала яго магілу. На ёй — невялікі, з густам зроблены помнік з чорнага мармуру, на якім пабеларуску і па-чэшску напісана: «Міхась Забэйда — пясняр беларускі. 1.6.1900—21.12.1981. Беларускі канцэртны і оперны спявак і педагог». А трошкі ніжэй прыпісана золатам: «Жыў песняй і песняй даваў людзям радасць». Усклалі на магілу кветкі, пастаялі, успомнілі яго «добрым ціхім словам»... Надзея Кастэцкая перадала нам і апошнюю просьбу нябожчыка — перавезці урну з яго прахам у Беларусь і пахаваць у роднай зямлі, якую ён любіў і якой служыў усё сваё свядомае жыццё...

Непадалёку ад магілы М. Забэйды-Суміцкага пахаваны і В. Захарка, П. Крэчэўскі, а таксама многія вядомыя рускія і ўкраінскія пісьменнікі, артысты, вучоныя. Ля адной з такіх магіл мы таксама спыніліся. «А. Т. Аверченко, — прачыталі мы. — Род. 6.III.1884 в г. Севастополь. Умер 12.III.1925 в Праге». І далей прыпіска па-чэшску — «Помнік гэты паставіла руска-чэшская суполка «Мир», Прага, 26.XII. 1930».

Пасля наведвання могілак хацелася памаўчаць, пра многае падумаць...

СЛАВЯНСКІ аддзел Пражскай бібліятэкі знаходзіцца непадалёку ад Вэлтавы трохі ўбаку ад Карлава Моста. І мы з Адамам Мальдзісам, П. К. Краўчанкам і іншымі энтузіястамі вырашылі ў той ранак зрабіць першую экскурсію з Пражскага Крамля па старым горадзе, і, вядома ж, спазніліся да назначанага нам часу. Але нас чакалі — доктар Міласлаў Зіма і начальнік архіўнага ўпраўлення доктар Поглей. Яны расказалі нам пра архіўную гаспадарку Чэхаславакіі, дзе могуць быць яшчэ матэрыялы, якія пральюць святло на жыццё і дзейнасць Ф. Скарыны ў Празе, а потым завялі нас у беларускі аддзел. Ён даволі вялікі, старанна падабраны.

Асабліва, што датычыць дарэвалюцыйных і перадваенных гадоў. У аддзеле сапраўды ёсць тое, што не ўсюды ўбачыш — амаль усе выданні пецярбургскай суполкі «Загляне сонца і ў наша ваконца», выданні віленскіх выдаўцоў Марціна Кухты, Б. Клёцкіна, ну, і, вядома ж, мінскія. Ёсць падшыўкі газет і часопісаў: «Нашай Нівы», «Крыніцы», «Савецкай Беларусі», «Звязды», «Чырвонай змены», «Літаратуры і мастацтва», «Узвышша», «Полымя», «Крывіча»... Ёсць і тыя выданні, што выходзілі ў Празе — «Замежная Беларусь», «Прамень» («Новы прамень»), «Іскры Скарыны», «Перавясла»... Нядрэнны падбор выданняў, што выходзяць і сёння ў Савецкай Беларусі і за яе межамі — у Мюнхене, Нью-Йорку, Лондане... Міласлаў Зіма, як былы супрацоўнік гэтай бібліятэкі, расказаў нам, што ў часе вайны фашысты хацелі на базе гэтай бібліятэкі адкрыць цэнтр па вывучэнню славянства. І звозілі сюды кнігі і бібліятэкі з усіх краін Еўропы. Прывезлі яны сюды і частку нашай Дзяржаўнай бібліятэкі імя Леніна. Ды і многія архіўныя матэрыялы. Усё гэта было вернута Беларусі і іншым краінам адразу ж пасля Перамогі...

Тыя гадзіны, што мы правялі ў бібліятэцы, не прапалі марна. Акрамя таго, што былі ўдакладнены некаторыя факты для Біябібліяграфічнага слоўніка, які рыхтуе Акадэмія навук БССР, былі знойдзены і невядомыя нашаму літаратуразнаўству матэрыялы, у прыватнасці, апавяданне і два артыкулы Уладзіміра Жылкі. У адным са знойдзеных артыкулаў, прысвечаным Ф. Скарыне (да 400-ых угодкаў друку на Беларусі), У. Жылка пісаў пра створанае ў Празе Беларускае (Крывіцкае) культурнае таварыства імя Ф. Скарыны і яго задачы: «Першым заданнем Таварыства ёсць, на нашу думку, гэтка: адчыніць падпіску на помнік Скарыне ў Вільні, месцы яго друкарскай працы, вызначыць прэмію на лепшы гістарычна-навуковы твор на беларускай мове з тых часоў; выдаць для народа рад папулярных кніжак аб Скарыне, назваць яго імем адну з старых беларускіх гімназіяў ці адчыніць новую. Нарэшце і палачанам варт нагадаць свайго слаўнага земляка і зрабіць усё, што магчыма, каб памяць аб ім жыла ў народзе. Спадзяемся, што наша згадка не будзе каменем кінутым у ваду, бо ходзіць аб тое, ці варты народ сваіх геніяў. Адказ можа быць толькі — але...»

Вельмі цёпла прыняты мы былі і ў Пражскім гаркоме партыі. За традыцыйнай кавай размова ішла пра тое, каб па-належнаму ўшанаваць нашага выдатнага земляка ў Празе. Здаецца, атрымана поўная згода адкрыць памятны знак у парку, які залажыў Ф. Скарына на Градчанах (каля палаца каралевы Ганны, дарэчы, яна не дачакалася канца яго будаўніцтва, памерла ў 44 гады, нарадзіўшы каралю Фердынанду пятнаццаць дзяцей), і бюста ў Карлавым універсітэце...

Не маглі мы, вядома ж, не наведаць і тыя мясціны, што звязаны са знаходжаннем ў Празе нашага народнага песняра Янкі Купалы. Як вядома, Янка Купала тройчы наведваў Чэхаславакію — у 1925 (разам з Ц. Гартным і М. Чаротам), у 1927 і ў 1935 гадах. Апошні раз ён жыў у Празе ў гасцініцы «Амбасадор», што на Вацлаўскай плошчы. Гэтая гасцініца і цяпер адна з лепшых у горадзе. Вось бы там ушанаваць імя нашага паэта! Ды гэта — справа будучага. Усё за адзін прыезд не ахопіш, не вырашыш...

**К**РАКАЎ нават пасля Прагі робіць уражанне сваімі помнікамі, незвычайнай прыгажосцю. Асабліва старая частка горада. І мы, ходзячы па вуліцах, наведваючы музеі, увесь час не забывалі пра Ф. Скарыну — мог ён гэта бачыць ці не? Вядома, Ягелонскі універсітэт, дзе аж тры гады жыў і вучыўся Ф. Скарына, — прадмет асаблівай нашай увагі. Захаваўся ў сваім першапачатковым выглядзе Калегіум Маюс і мы правялі там амаль паўдня — разглядалі дворык са студняй пасярэдзіне, келлі, дзе жылі студэнты і выкладчыкі, калідоры, галерэі, па якіх яны хадзілі. Універсітэт быў каталіцкі, выкладанне вялося на латыні, і выкладчыкі яго былі манахі. Вучняў сваіх выхоўвалі ў строгасці і паслушэнстве. Ф. Скарына ж быў па натуры чалавек свецкі, таму і не застаўся, як некаторыя, у мурах Ягелонскага універсітэта, паехаў далей шукаць долі і шчасця па свеце. І ці не тут, у час вучобы, прыйшла яму ўпершыню думка даць кнігу народу на зразумелай мове, а не на мёртвай латыні?

Рэктар Ягелонскага універсітэта прафесар Выразумскі, які прыняў нас, расказаў, што ва універсітэце помняць пра Ф. Скарыну, захаваліся нават тры дакументы пра яго прабыванне тут. (Для параўнання — у той самы час, што і Ф. Скарына, вучыўся вялікі польскі астраном Мікалай Капернік. Пра яго захаваўся толькі адзін дакумент). Жыццё і дзейнасць Скарыны даследуюцца ва універсітэце. Нядаўна рэктарат універсітэта прыняў на сваім пасяджэнні рашэнне — адкрыць дошку ў гонар вялікага сына беларускага народа. Прафесар правёў нас па універсітэце, папрасіў выбраць месца, дзе б лепш гэту дошку прымацаваць. Ды і над мастацкім выкананнем дошкі прасіў скульптараў падумаць, бо тыя дошкі, што ўжо тут ёсць — а іх нямала — мастацкія шэдэўры. Ягелонскі ж універсітэт скончылі многія выдатныя людзі — згаданы ўжо Мікалай Капернік, паэт Ян Каханоўскі, гісторык Ян Длугаш, тэолаг Пётр Скарга, фізік Зыгмунт Урублеўскі...

Само сабой зразумела, каб пранікнуцца духам Скарыны і яго эпохі, наведалі мы і музей універсітэта, дзе з асаблівай увагай разглядалі прадметы, якія мог бачыць, а то і трымаць у сваіх руках Ф. Скарына — кнігі, прыборы, а таксама патэльні, каструлі, конаўкі, лыжкі, відэльцы, якімі карысталіся выкладчыкі і студэнты. Ды і келлі, дзе жылі, тыя ложкі, дзе спалі, крэслы, дзе сядзелі...

Пабывалі мы і ў Каралеўскім замку, дзе несумненна бываў і Ф. Скарына. Цяпер тут вялізны музей, у якім сабраны нацыянальныя рэліквіі ўсёй Польшчы. Шмат тут чаго і з Вялікага княства Літоўскага, з тых часоў, калі заключаліся уніі і польскія каралі лічыліся з князямі літоўскімі, захоўвалі пэўны парытэт. Герб «Пагоня» тут усюды фігуруе побач з польскім арлом. Не маглі мы прайсці міма і сукенніцы — гандлёвых радоў, дзе ў часы Скарыны гандлявалі купцы. Не ведаю, як каму, а мне, калі стаялі ля старажытных муроў, уявіўся малады Ф. Скарына — у манашаскім адзенні ён спяшаўся сюды, каб сустрэцца ці з бацькам, ці з братам Іванам, або з іншым кім-небудзь, хто прыехаў з родных краёў: даведацца, што там дома, у Полацку, і пачуць, насалодзіцца роднаю мовай... Пэўна ж, сумаваў ён па ўсім гэтым, жывучы тут, у чужым і далёкім горадзе...

Не прайшлі міма мы і таго дома, дзе ў 1891 годзе была надрукавана «Дудка беларуская» Ф. Багушэвіча. Цяпер тут Музей выдатнага польскага драматурга, паэта, мастака і тэатральнага дзеяча Станіслава Выспянскага. І мы падумалі: някепска было б на гэтым доме дошку прымацаваць яшчэ пра адзін факт польска-беларускіх сувязей. Яна б тут была вельмі дарэчы, не пашкодзіла б. Пра гэта мы і сказалі ў Камітэце ваяводскім, дзе нас вельмі ж хораша прынялі. Ды і пра іншае пагаварылі, звязанае з юбілеем Скарыны. І не толькі.

А як жа, будучы ў Кракаве, не наведаць магілы Алеся Гаруна? Знойдзеная не так даўно, гэтая магіла стала ўсеагульным беларускім клопатам. Тыя нашы суродзічы, што жывуць за межамі Беларусі, сабралі грошы на помнік, а беластачане яго зрабілі. На адкрыццё помніка выдатнаму паэту ездзіла даволі прадстаўнічая дэлегацыя і з Савецкай Беларусі («ЛіМ» пра гэта пісаў). Нас парадавала, што на магіле Алеся Гаруна стаяць свежыя кветкі — значыцца, не адзінокі паэт тут, у Кракаве. Ёсць людзі, якія яго ведаюць, помняць, шануюць. Доўга стаялі мы ля чырвонага каменю, на якім выбіты крыж Ярылы і напісаны словы: «Алесь Гарун (Аляксандр Прушынскі) — 11.III.1887 — 28.VII.1920. Беларускі паэт, рэвалюцыянер і незалежніцкі дзеяч». А трошкі ніжэй словы паэта:

«І Беларусь — Маці
долю агледзіць,
Устане як Лазар з руін
забыцця...».

Даследчыкам яшчэ многае трэба вывучыць з біяграфіі паэта, творчасць якога не так даўно вярнулася ў нашу літаратуру. Па-першае, чаму менавіта сюды, у Кракаў ехаў хворы паэт? Хацеў трапіць у Закапаны, каб там палячыцца? А, можа, тут жылі яго родзічы — на могілках, непадалёку ад магілы Алеся Гаруна, цэлы куток, дзе пахаваны Прушынскія? Па-другое, дзе падзелася тая торбачка з рукапісамі, якая быццам была пры ім, калі яго амаль непрытомнага ўкінулі ў Ваўкавыску ў вагон, што ішоў на Польшчу?.. Няўжо тую торбачку ніхто не падабраў, няўжо яна беззваротна згублена — загінула?..

**У** ЛЮБЛІНЕ нас, вядома, таксама цікавілі найперш тыя мясціны, якія звязаны з Беларуссю. А тут жа, як вядома, вяліся перагаворы між Польшчай і Вялікім княствам Літоўскім, пасля якіх была заключана унія (1568 г.). Па-рознаму ставяцца гісторыкі сёння да гэтай, ды і пазнейшай, Брэсцкай (1596 г.), уній. Адны бачаць у іх толькі дрэннае, другія — толькі добрае. Не хацелася б улазіць у гэтыя спрэчкі. Ясна адно — уніі прывялі да заняпаду Вялікага княства Літоўскага, Польшча праглынула яго. Пачалося жудаснае апалячванне беларускага, украінскага і літоўскага народаў...

**В**А ЎСЯКІМ падарожжы, кажуць, самае прыемнае — калі яно канчаецца, калі вяртаешся дадому. А вярталіся мы на радзіму з яшчэ большым усведамленнем, што значыць для нас і ўсяго славянскага свету наш вялікі друкар і вучоны Францыск Скарына...

# Вера Мікалаеўна ПОЛА



**Беларускае тэатральнае мастацтва панесла цяжкую страту — 15 кастрычніка 1989 г. памерла народная артыстка Беларускай ССР Вера Мікалаеўна Пола.**

**Вера Мікалаеўна Пола нарадзілася 7 лютага 1901 года ў г. Мінску. У 1922 годзе яна прыйшла працаваць у тэатр імя Янкі Купалы, з якім назаўсёды звязала сваё творчае жыццё. На купалаўскай сцэне Вера Мікалаеўна Пола стварыла мноства выдатных сцэнічных вобразаў. Яе мастацтву былі ўласцівы шырокі творчы дыяпазон, народны гумар, багацце моўных інтанацый. Прызнанне гледачоў здабылі ёй ролі камедыйнага плана, сацыяльна акрэсленыя народныя характары, персанажы з псіхалагічна дакладным малюнкам. Найбольш ярка талент Веры Мікалаеўны Пола праявіўся ў спектаклях па творах беларускай драматургіі. Сваёй творчасцю яна ўнесла значны ўклад у развіццё і станаўленне беларускага тэатральнага мастацтва.**

**Сярод лепшых сцэнічных работ актрысы — Агата ў камедыі Янкі Купалы «Паўлінка», Малання ў «Кар'еры таварыша Брызгаліна» Я. Міровіча, Марыля ў «Бацькаўшчыне» К. Чорнага, Дуэння ў камедыі Р. Шэрыдана «Дзень цудоўных падманаў», Жыўка Попавіч у «Пані міністэршы» Б. Нушыча, Карміцелька ў трагедыі «Рамэа і Джульета» У. Шэкспіра, графіня Чарская ў спектаклі па «Уваскрэсенню» Л. Талстога, Белацелава ў «Жаніцьбе Бальзамінава» А. Астроўскага, Аркадзіна ў «Чайцы» А. Чэхава, Ганна Раманаўна ў спектаклі «Стары Новы год» па М. Рошчыну і многія іншыя.**

**За стварэнне ролі Паўліны Бохан у спектаклі па камедыі К. Крапівы «Пяюць жаўранкі» Вера Мікалаеўна Пола была ўдастоена Дзяржаўнай прэміі СССР. Актыўна працавала В. М. Пола і ў беларускім кінематографе, дзе стварыла шэраг прыкметных вобразаў.**

**Партыя і ўрад высока ацанілі дзейнасць В. М. Пола. Ёй было прысвоена ганаровае званне народнай артысткі Беларускай ССР, яна адзначана ордэнамі Працоўнага Чырвонага Сцяга, «Знак Пашаны», медалямі.**

**Сціплая і добразычлівая, прынцыповая і патрабавальная да сябе і да іншых, Вера Мікалаеўна Пола ўсё сваё жыццё аддала служэнню беларускаму тэатральнаму мастацтву, сваёй Бацькаўшчыне.**

**Вобраз выдатнай актрысы, чалавека вялікай душы назаўсёды застанецца ў нашай памяці.**

**В. А. ПЯЧЭННІКАЎ, Н. М. МАЗАЙ, А. У. РУСЕЦКІ, У. Д. АТРОШЧАНКА, А. І. БУТЭВІЧ, П. П. КІШКУРНА, Я. К. ВАЙТОВІЧ, М. М. ЯРОМЕНКА, У. П. РЫЛАТКА, І. І. ВАШКЕВІЧ, В. М. РАЕЎСКІ, Г. К. МАКАРАВА, С. М. СТАНЮТА, З. Ф. СТОМА, В. П. ТАРАСАЎ, Г. С. АЎСЯНІКАЎ, З. І. БРАВАРСКАЯ, Г. М. ГАРБУК, Л. М. ДАВІДОВІЧ, П. Ф. ДУБАШЫНСКІ, М. Г. ЗАХАРЭВІЧ, П. В. КАРМУНІН, А. Л. МІЛАВАНАЎ, А. І. КЛІМАВА, Ф. М. ШМАКАЎ, Р. І. ЯНКОЎСКІ, Г. Б. ДАВЫДЗЬКА.**

# Варашылаўскія стралкі

**(Пачатак на стар. 12—13).**

**— Мікалай Іванавіч, вы штосьці блытаеце. Каб наша Марыя — выдатніца медыцынскай службы, камсорг бальніцы — спала? Быць такога не магло. Вам здалося.**

**— Сам бачыў, слова гонару! Некалькі разоў падыходзіў правяраць. Схавалася ў куток за вазоны, звалакла туды крэслы і дрыхла. На службе!**

**— Ты глядзі!.. Зрэшты, ноччу спаць усім хочацца, асабліва маладыя гэта любяць.**

**— Спала яна, бачыў на свае вочы. Законна кажу!**

**— Гм, Гм... Ну, я ж ёй!.. А ты, выяўляецца, яшчэ і сексот?**

**— Падпісаў абавязацельства сакрэтнага супрацоўніка яшчэ ў 1937 годзе.**

**— Яно і відаць.**

**Чалавечак хвіліну стараўся разгадаць, што гэтым доктар хоча сказаць.**

**— Слухай, Шылаў, а табе якая бяда, што сястра ноччу рабіла?**

**У вачах лысага чалавечка са зморшчаным тварыкам — перапалох ад таго, што нечым не дагадзіў:**

**— Мне-е?!**

**— Табе, табе!**

**— Гэ!.. А ніякай.. Я сам разумею, што ноччу спаць усім хочацца... Але падумаў, вам прыемна пра гэта будзе даведацца. Бо дысцыпліна ў бальніцы патрэбна... Народ цяпер распусціўся, ніякага парадку няма...**

**— Наконт дысцыпліны — маеш рацыю. І наконт парадку. Але пачуць ад цябе пра гэта мне якраз і непрыемна.**

**— Не разумею... Чаму?**

**— Бо яна толькі што мне сама прызналася!**

**— Прызна-алася?!**

**— Але. Вось і таварыш староннi чуў.**

**— Гы, прызналася!.. А я што? Я, доктар, нічога і не кажу. Я толькі думаў...**

**— Кепска вы думалі, Шылаў! І не будзем больш пра гэта!!**

**Успомнілася, як доктар учора вечарам казаў — «варты Чэхава, Дастаеўскага». Няпраўда! І пры Сталіне катам мог быць не кожны!**

**Цяпер я ведаў, чаму Быкаў не пайшоў з намі. Гутарыць з такой гнідай — толькі сэрца трывожыць.**

**З гэтым тыпам мне расхацелася ўжо не толькі размаўляць, — я і глядзець на яго больш не мог. А яшчэ. Надзіва, сустрэча дала такі стрэс, што нават белы мае як бы паменшалі. Ужо хацелася бегчы на вакзал, па білет, бо мяне чакаў распачаты раман, які я стаў пісаць з месяц таму назад.**

**5.**

Літаральна праз некалькі гадоў пачало ўсё мяняцца, бы ў той байцы. У многім прычыніўся да гэтага П. М. Машэраў, які ўсё больш унікаў у жыццё рэспублікі.

Мне і Клейну ЦК КПБ вярнуў партбілеты.

Мой новы раман выйшаў амаль адначасова ў Мінску і Маскве. Быкаў не толькі стаў лаўрэатам, а кожная газета лічыла сваім абавязкам ужо яго хваліць.

У вобласці сталі прыкметна заўважацца зрухі ў эканоміцы і сельскай гаспадарцы. Паляцелі з пасады найгоршыя з кіраўнікоў. Зрэшты, некаторыя да таго сябе скампраметавалі, што органам кантролю аблегчылі сваё звальненне.

«Генка» папаўся на непрыстойных махінацыях, з мэра горада перавялі яго дырэктарам будкамбіната. Бачачы, што гэта толькі пачатак, а пракуратура трапіла на след яго махінацый, аднойчы напіўся ды з дубальтоўкі стрэліў сабе ў рот.

Затым наш абласны цэнтр патрэсла справа высокапастаўленых паляўнічых.. Той колішні сакратар абкома з начальнікам КДБ і намеснікам старшыні аблвыканкома былі да ўсяго заядлымі браканьерамі. Гэтыя зухі перад Новым годам заехалі ў Белавежскі запаведнік, каб разжыцца на свята дзічынай. Панапіваліся да таго, што ў вачах стала ім дваіцца і траіцца. У выніку адзін, страляючы ў кабана, загнаў другому жакан у жывот.

Усіх «варашылаўскіх стралкоў» Машэраў зараз жа звольніў з працы.

На гэтым эпоха самадураў у нас скончылася. Шкада, скуткі іхняй улады адчуваць будуць і нашы праўнукі.

